PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 49 (2169) Год XLII Беласток 7 снежня 1997 г. Цана 1 зл.

## У нумары





# Больш да Польшчы прывязаны

Адсутнасць дыялекту ў вёсцы выклікае атмасферу прэтэнцыёзнасці.

Як у наваколлі Янава. Тутэйшыя сяляне не толькі ў аўтобусе, але і ў вёсцы гавораць ужо па-польску.

Дарога трасучая і брукаваная. У аўтобусе жменька пасажыраў. Пажылыя жанчыны расказваюць пра свае хваробы. Іх польская мова амаль літаратурная. У сутнасці гэта механічны, спеўны пераклад з беларускай. Нагадвае ён музыку disco polo. За вакном лепіць першы снег. Мільгаюць дарожныя ўказальнікі з назвамі: Dlugi Ług, Bialousy, Bombla, Przystawka. Уражваюць прыгожыя драўляныя дамы з шыкарнымі ганкамі і бела-зялёнай арнаментоўкай. На панадворках салідныя забудовы, аборы. У вёсках, ля дарог, безліч крыжоў і каплічак. Янаў з'яўляецца сталіцай музыкі disco polo. У пачатку мясціны, быццам герб, танцавальны клуб „Panderoza".

— Пачнем з касцёла, — прапануе Казімеж Нятупскі, мой праваднік.

Янаўскі касцёл (на здымку) без цяжкасці памесціць вернікаў усёй гміны (пяць тысяч жыхароў). Яго манументальныя памеры і небасяжнасць выклікаюць у мясцовых католікаў пачуццё гонару. Гэтую велічную святыню ўзнеслі за няпоўных шэсць гадоў. У гістарычнай ноце пра парафію, чытаем на мармуровай дошцы, што першым фундатарам быў hetman Sapiecha. Арфаграфічная памылка падказвае, што ў пачатку стагоддзя польская мова была тут малавядомая.

Сам Янаў узнік позна, бо ў пачатку XVIII стагоддзя і належыў Сапегам. Найперш называўся *Прыбудак*. Яшчэ і зараз так называюць у народзе Карыцінскую вуліцу.

— Жылі там дрывасекі і лясныя рабочыя, — паясняе спадар Нятупскі.

Янаў якраз і заснаваны на краю Кнышынскай пушчы. Яго герб — воўк на фоне лесу.

За агароджай касцёла пачынаецца парк. Там таксама стаіць помнік сынам Янаўскай зямлі, якія ваявалі за незалежную Польшчу.

— Як прыйшлі саветы, то двух мясцовых арла скінулі, — кажа мой праваднік. — Мабыць, прыслужыцца новым уладальнікам хацелі. Адзін, праўда, гэта жыд быў.

Да вайны яўрэі ў Янаве складалі большасць. На дзве тысячы жыхароў было 1 100 яўрэяў і 900 католікаў. Казімеж Нятупскі паказвае на старым фотаздымку двухпавярховую драўляную сінагогу. Згарэла яна ў час апошняй вайны.

У Янаве захаваўся урбаністычны план з XVIII стагоддзя. Тут, як нідзе на Падляшшы, сустрэнеце прыгожае мяшчанскае дойлідства. Драўляныя шыкарныя дамы і прытульныя вулічкі наводзяць настрой старой паштоўкі, атмасферу *ліцьвінскага* мястэчка.

— Nas mazurzy zza Biebrzy nazywają *Litwacy* albo *Rusini*, — кажа Станіслава Кавальчук, дырэктар Дома культуры.

— A i u nas ludzie mazurom umieli powiedzieć. Najbardziej ich język śmieszył. Takie na przykład powiedzonko bylo: *Matka suka, córka suka, a syn piesek miesa*, — успамінае як добры анекдот спадар Нятупскі.

— Albo się mówiło o mazurskiej mowie: *Do południa rozmawia, a po południu szalony*. — дадае спадарыня Кавальчук.

Лакальная назва *шкаце* адносілася да жыхароў „за лесам", у напрамку Саколкі. Назва пайшла ад таго, што там пасяліліся майстры ткацкага рамяства, са Шкоцыі (Шатландыі), якія вялі мануфактуры.

*Шкаце* — гэта жыхары такіх вёсак, як Трасцянка ці Новая Воля. Апошняя вёска, як адзіная ў гміне Янаў, праваслаўная.

— Teraz ich nazywamy indianie, — адзначаюць мае субяседнікі. — Bo tam piją denaturat i mają czerwone nosy.

Распытваю пра арыгінальныя назвы вёсак, бо здзіўляе мяне пачутая Трасцянка ці Новая Вола, якія на карце пазначаны як Trzcianka і Nowowola.

— Mówią u nas — „jadę do Traścianki a nie Trzcianki", — паясняюць. Аднак нетутэйшаму наведвальніку цяжка здагадацца, што над назвай Nowy Janów скрываюцца Навасельцы, а пад Przystawka — звычайная Прыстаўка.

— Ludzie się oburzyli jak Janowicz i Związek Białoruski chcieli, żeby Trzcianka była Traścianka, — кажа спадарыня Кавальчук, — bo z racji wyznania mieszkańcy czują się Polakami. No i są bardziej do Polski przywiązani. A o co to w ogóle chodziło z tą zmianą nazw miejscowości?

— Ці па-просту яшчэ ў вас размаўляюць? — пытаю ў сваіх суразмоўцаў.

— Яшчэ маё пакаленне ведае гэту мову, — кажа Казімеж Нятупскі, які нарадзіўся ў 1935 годзе. — Нашы бацькі яшчэ так гаварылі. Але да нас адзываліся ўжо па-польску. А пазней, пасля вайны, то і бацькі пачалі гаварыць на польскай мове.

*(заканчэнне будзе)*

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Мы прачыталі

*Паводзіны прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі служаць цэламу шэрагу мэтаў, але ніводная з іх не зьяўляецца ўласнай мэтай самога Лукашэнкі. Праз уласную неразумнасьць Лукашэнка зменшыў шанцы на аб'яднаньне Расеі і Беларусі, якога, па сваіх словах, ён дамагаўся. Акрамя гэтага Лукашэнка стаўся чыньнікам, супраць якога адбываецца кансалідацыя іншых краін рэгіёна. На Захадзе перасталі думаць, што дэмакратычны выбар у посткамуністычных краінах незваротны.*

*Апошнім часам расейскі віцэ-прэм'ер Анатоль Чубайс адзначыў, што ён не верыць у аб'яднаньне Расеі і Беларусі, бо іхнія эканомікі цяпер адрозьніваюцца гэтак сама як Паўднёвай і Паўночнай Карэі. Лукашэнкавы аўтарытарныя паводзіны і ягонае захапленьне Сталінам і Гітлерам зрабілі Лукашэнку своеасаблівым адмоўным прыкладам таго, як нельга кіраваць, для ўсіх краін рэгіёну. Існаваньне Лукашэнкі і ягонага рэжыму дазваляе лідэрам навакольных дзяржаваў супрацьпаставіць яму сваю палітыку і паказваць сябе як рэфарматараў і дэмакратаў.*

*Весткі і паведамленьні, н-р 368*

* * *

*Как посчитали журналисты 7 ноября в Минске демонстранты несли 7 портретов Сталина, 5 Ленина, 2 Машерова и несколько десятков портретов Лукашенко.*

*Народная воля, н-р 200*

Савецкі люд паважае лідэраў сусветнага пралетарыяту. Не хапіла толькі яшчэ аднаго дэмакрата — таварыша Адольфа Г., шэфа нямецкіх сацыялістаў у 1933—1945 гадах.

* * *

*7 тысяч прыхільнікаў камуністычнай ідэі прыйшлі да помніка свайму правадыру, каб адзначыць гадавіну „вялікага кастрычніка". Сярод камуністычнага натоўпу вылучаліся маладыя патрыёты-лукамольцы з партрэтамі Лукашэнкі. Выглядала гэта як у кадры савецкай кінахронікі 30-х гадоў: на мітынгах камсамольцы трымаюць транспаранты з патрабаваннямі расстраляць агентаў сусветнага імперыялізму.*

*Свабода, н-р 124*

* * *

*Наша жизнь пропитана страхом. За восемьдесят лет владычества большевизма нас научили что надо бояться. Страх был признаком благонадежности. Нельзя было жить, не оглядываясь: а что думают о тебе соседи? А не донесут ли они на тебя в „органы"? А не арестуют ли тебя? И подленькая мысль, до сих пор просачивающаяся вонью на страницы государственных газет: „Власть-то — она наша, народная! Она знает, что делает". Кто сказал, что власть — „народная"? Кто сказал, что народ до сих пор поддерживает эту власть? Социолог Ротман? Он то же говорил и при Кебиче. Полковник Заметалин? Кто уполномочил его говорить от имени народа? Президент? Этот господин обещал когда-то очистить власть от жуликов и взяточников! Сейчас жулики поддерживают президента и его диктаторскую власть.*

*Народная воля, н-р 200*

* * *

*Obecną demokrację można nazwać telewizyjną. Taka demokracja niepostrzeżenie staje się paradą blagierów i małych kłamczuszków, nie mających zamiaru rozliczać się ze składanych wyborcom obietnic, zatroskanych tylko o to, jak wypadną na małym ekranie, czy nie powinni jeszcze trochę odchudzić się, jak prezentuje się fryzura małżonki, albo czy ładnie wysuwa się im ta wodzowska dolna szczęka? Prezentacja i frazesy bez pokrycia stają się ważniejsze od programów i cech charakteru. Oczywiście przy założeniu, że „polityk telewizyjny" w ogóle ma jakikolwiek charakter.*

*Gazeta—Magazyn, nr 46*

* * *

*Państwowa Inspekcja Handlowa skontrolowała łomżyńskie sexshopy. Prawie cały asortyment został zakwestionowany przez kontrolerów. Wibratory nie miały opisu w języku polskim jak należy zakładać baterie, majtki nie miały oznaczeń w jakiej temperaturze należy je prać.*

*Kurier Poranny, nr 265*

Можа гэтымі кантралёрамі былі актывісты парафіяльных камітэтаў?

* * *

*Lekarze twierdzą, że ich protesty nie są wymierzone w pacjentów.*

*Gazeta Wyborcza, nr 265*

Слушна, некаторыя звычайна перастаюць быць „пацыентамі", пераносяцца ў краіну, дзе нікому і нішто не баліць.

* * *

*Są w Polsce lekarze od których można uczyć się człowieczeństwa, ale są też zdemoralizowani i cyniczni. Kupujemy sprzęt szpitalom, które nie potrafią nawet podziękować, łapiemy lekarzy, którzy na tym sprzęcie robią prywatną praktykę. Nieżyjący minister Żochowski powiedział, że najbardziej skorumpowanym zawodem w Polsce są lekarze,* — сказаў Юрэк Оўсяк.

*Kurier Poranny, nr 267*

# З мінулага тыдня

**У Варшаве** праходзіла трохтыднёвая нарада Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ), на якой абмяркоўваліся пытанні выканання правоў чалавека. Акрамя афіцыйнай беларускай дэлегацыі на нараду запрошаны былі прадстаўнікі неўрадавых структур Беларусі. Старшыня беларускага Дзяржкамітэта па пытаннях рэлігіі і нацыянальнасцей **Аляксандр Білык** выступіў з дакладам на тэму выканання краінамі-ўдзельніцамі АБСЕ абавязкаў у галіне чалавечага вымярэння. Пазіцыю афіцыйнай беларускай дэлегацыі прадставіла намесніца міністра замежных спраў **Ніна Мазай**, якая сваё выступленне звяла да таго, што праблема з забеспячэннем правоў чалавека на Беларусі існуе з-за таго, што Беларусь перажывае эканамічны крызіс (на фоне афіцыйных заяў прэзідэнта РБ **Аляксандра Лукашэнкі** пра эканамічны рост прагучэла гэта даволі дзіўнавата). Альтэрнатыўны погляд на пытанне правоў чалавека ў Беларусі прадставіла старшыня беларускага Хельсінскага камітэта **Таццяна Працько**. У ходзе нарады ставілася між іншым справа стварэння на Беларусі сталага прадстаўніцтва АБСЕ, якое сачыла б за захаваннем грамадзянскіх правоў у рэспубліцы.

**Пасля забароны газеты „Свабода"** палітыка беларускага прэзідэнта падвергласа на канферэнцыі АБСЕ ў Варшаве яшчэ больш вострай крытыцы. Член амерыканскай дэлегацыі абвінаваціў кіраўніка Беларусі ў злоўжыванні ўладай і грэбаванні правамі чалавека ўказаўшы, што за апошнія тры гады прэзідэнтуры Аляксандр Лукашэнка падпарадкаваў сабе ўсе рэспубліканскія інстытуты і ўвёў аўтарытарную сістэму кіравання дзяржавай.

**Прэм'ер-міністр Ежы Бузек** прыняў адстаўку беластоцкага ваяводы **Анджэя Гаеўскага**. Абавязкі ваяводы выконвае зараз віцэ-ваявода **Гжэгаж Рыкоўскі**. Анджэй Гаеўскі быў ваяводам з 1 кастрычніка 1994 года.

**Новы закон аб друку** стаў тэмай семінара, сарганізаванага ў Варшаве Цэнтрам маніторынгу свабоды друку Аб'яднання польскіх журналістаў. На думку дырэктара Цэнтра **Анджэя Гашчынскага**, ніхто цяпер не ведае, калі будзе ўхвалены новы закон, паколькі палітыкі гэтым асабліва не цікавяцца і на дадатак самі штораз больш не далюбліваюць журналістаў. Цэнтр маніторыгну распрацоўвае цяпер грамадскі праект закона аб друку, каб вясною будучага года перадаць яго на разгляд сеймавай Камісіі культуры і сродкаў масавай інфармацыі.

**Еўрапейскі інфармацыйны цэнтр** ствараецца ў Беластоку па ініцыятыве Фонду развіцця лакальнай дэмакратыі. Інфармацыяй будуць карыстацца пазаўрадавыя арганізацыі пры наладжванні дзейнасці і супрацоўніцтва ў паўночнаўсходнім рэгіёне і сумежных краінах.

**На Святой Гары Грабарцы** адбылася сустрэча каталіцкай і праваслаўнай моладзі. У аднадзённым спатканні прымалі ўдзел прадстаўнікі каталіцкіх маладзёжных грамадскіх рухаў і сябры Брацтва праваслаўнай моладзі. Мэтай сустрэчы было ўзаемазбліжэнне і ўзаемаразуменне моладзі абедзвюх канфесій.

**Польскае пасольства ў Стакгольме** перадало ўладам Беластока пратэсты грамадзян Швецыі супраць дрэнным варункам утрымання жывёл, асабліва мядзведзя і льва, у гарадскім заапарку. Падставай пратэстаў сталі паказанні шведскіх турыстаў, якія летам наведалі горад.



# Весткі з Беларусі

**З'яўленне гістарычных сцягоў**

Бел-чырвона-белыя сцягі з'явіліся пад канец лістапада ў некалькіх мікрараёнах Менска — у Вяснянцы, Серабранцы, Чыжоўцы і Шабанах. Увагу шматлікіх жыхароў сталіцы прыцягвала палотнішча памераў 3 на 6 метраў, якое звешвалася з даху жылога дома, дзе месціцца цэнтральная кнігарня (на рагу вул. Камсамольскай і прасп. Скарыны), якраз насупраць будынка Камітэта дзяржбяспекі. Сцяг быў зняты з дапамогай пажарнай высотнай лесвіцы а дзевятай раніцы. Аналагічныя акцыі прайшлі ў Лідзе, Гродне, Оршы, Наваполацку, Маладзечне і некаторых іншых гарадах. Падзеі гэтыя адбыліся напярэдані гадавіны рэферэндуму.

**Антыпрэзідэнцкі пратэст**

У першую гадавіну канстытуцыйнага рэферэндуму ў Менску адбыліся дзве дэманстрацыі. Трохтысячны мітынг у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі сарганізаваў праапрэзідэнцкі Беларускі патрыятычны саюз моладзі. Каля шасці тысяч жыхароў беларускай сталіцы ўдзельнічала пад бел-чырвона-белымі сцягамі ў дэманстрацыі ў абарону дэмакратыі, сарганізаванай беларускай апазіцыяй, якая лічыць, што галасаванне, у выніку якога Лукашэнка атрымаў неабмежаваную ўладу, праводзілася з парушэннем канстытуцыі, а яго вынікі былі сфальшаваныя. Дэманстранты неслі куклу гарылы з надпісам „Дыктатура".

**Вучоба ў арыштце**

Актывіст Маладога фронту, шаснаццацігадовы Вадзім Лабковіч, які ўтрымліваецца ў жодзінскім следчым ізалятары па абвінавачванні ў напісанні палітычных лозунгаў, нарэшце атрымаў дазвол на сустрэчу са сваім адвакатам Іванам Дударавым. Адвакат не бачыць сэнсу ў такой жорсткай меры ўтрымання свайго непаўналетняга падабароннага і падаў дзве скаргі ў суд і пракуратуру. Па словах Дударава, Лабковіч самастойна засвойвае зараз школьную праграму і мае ўсе неабходныя падручнікі. Настаўнікі Сярэдняй школы № 95, дзе вучыўся Вадзім, гатовы прыехаць да яго ў сіза і прыняць залікі за першую чвэрць, але ўлады не згадзіліся на гэта.

**Закрыццё „Свабоды"**

Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі закрыў незалежную газету „Свабода", абвінаваціўшыя яе ў распальванні варожасці ў грамадстве. „Свабода" — асноўны рупар апазіцыі — неадноўчы публікавала матэрыялы з рэзкай крытыкай палітыкі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, параўноўваючы цяперашняе становішча рэспублікі са сталінскім перыядам. Іск супраць газеты падаў Дзяржкамдрук. Судовы працэс працягваўся ўсяго 15 мінут. Галоўны рэдактар „Свабоды" Ігар Гермянчук заявіў, што рашэнне суда выклікана палітычнымі матывамі, паколькі ўлады баяцца свабоды слова.

**Эканамічнае пляча**

Для слуцкіх паясоў патрэбна не толькі тонкая талія, але і моцныя плечы, дакладней, трывалае эканамічнае пляча. Майстрыхі слуцкіх паясоў ткуць цяпер толькі пад заказ не болш як 10-15 вырабаў у месяц. Каштуюць гэтыя унікальныя, зробленыя ўручную творы мастацтва 1-2 млн. рублёў. І нават разам з іншай фірменнай прадукцыяй менскай Фабрыкі мастацкіх вырабаў — вышытымі сталовымі рэчамі і пасцельнай бялізнай — не могуць забіць вытворчасць рэнтабельнай. Такім плячом сталі лініі па пашыву куртак. Прадпрыемства закупіла імпартнае абсталяванне, на якім будзе выпускаць яшчэ і жаночыя трыкатажныя вырабы. Толькі так можна захаваць унікальную вытворчасць слуцкіх паясоў, гісторыя якіх налічвае больш за 250 гадоў і якія па праву лічацца сімвалам беларускай культуры.

**Фестываль колішніх шлягераў**

Трэці раз Магілёў быў сталіцай Міжнароднага фестывалю „Залаты шлягер". У пачатку лістапада тут адбылося чарговае свята песень мінулых гадоў. Па традыцыі фестываль зазірнуў і ў Менск. Сёлета арганізатары фестывалю не абмяжаваліся толькі запрашэннем зорак, што зыйлі на небасхіле савецкай эстрады. У „Залатым шлягеры" выступілі таксама пераможцы Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў, які другі раз прайшоў у рамках фестывалю. Апошнім жа акордам свята музыкі і песні быў юбілейны канцэрт Анатоля Ярмоленкі і ансамбля „Сябры" з удзелам зорак савецкай і беларускай эстрады.

**10 гадоў таму назад...**

# „... Урадзілась чыжаня!”

Лістападаўскі вечар. Гмінны асяродак культуры ў Чыжах. Толькі пачаў свой юбілейны канцэрт калектыў „Чыжавяне”, як у зале ГОКа пагасла святло. Жанчыны з калектыву аж войкнулі. Так рыхтаваліся, так рыхтаваліся, а тут на табе... Твары іх спахмурнелі, яны ледзь не плакалі.

Але найважнейшае ўсё ж — ініцыятыва. Зараз жа на сцэне пачалі паяўляцца свечкі, лямпы, засвяцілі кішэнныя ліхтары. Людзі прынеслі што хто меў. Кіравалі гэтай акцыяй (і не толькі) дырэктар ГОКа Юры Якімюк і яго намеснік Юры Сіманюк.

І калектыў спяваў далей. Спяваў, як калісьці, пры свечках. Дырэктар Казімеж Дэркоўскі ўсклікнуў: „Alеż to jest piękne!”

Святло запалілася, калі адспявалі ўжо не толькі гаспадары вечара — „Чыжавяне”, але і запрошаныя калектывы: „Незабудкі” з Курашава, „Збучанкі” са Збуча і „Цаглінкі” з Ляўкова. Спрытны арлянскі войт Міхась Іванчук зараз жа пазваніў у Орлю, і адтуль прыехалі электрыкі, якія направілі электрычную сетку, папсаваную (казалі) для жарту малалеткамі.

Дзякуй Богу, ёсць яшчэ крыху свавольнікаў у гэтай вёсцы, бо ў тутэйшай школе вучыцца каля паўтары сотні дзяцей. Але і з гэтай заможнай ды з размахам пабудаванай вёскі, дзе на панадворках стаяць легкавушкі, а ў хатах усё аснашчана тэхнікай, і адсюль, як з кожнай нашай вёскі, моладзь ахвотна ўцякае ў горад, а іх бацькі, маючы чым ім дапамагчы, дзельна ім дапамагаюць.

... Пасля выступленняў калектываў, ужо пры святле, пачаліся віншаванні. Сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, якая вядзе вечар, выклікае па чарзе ахвотных перадаць пажаданні юбілярам. А слова сказаць хочуць важныя госці і суседзі.

Выступаюць паслы Сейма Сяргей Плева і Ян Сычэўскі, дырэктар Аддзела культуры Казімеж Дэркоўскі і дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Анджэй Дырдал, войт Рыгор Мацкевіч, віншуюць суседкі па гміне „Збучанкі” і „Незабудкі”, а пасля „Цаглінкі” спяваюць юбілярам спецыяльна падрыхтаваную песню пра тое, як „урадзілась чыжаня”. Крыху пазней гаворыць сваё слова віцэ-консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Павел Латушка.

Ужо адзінаццаць гадоў будзе, як пойдзем сёлета калядаваць, — сказала мне Вольга Ахрымюк у свабаднейшую хвілінку. І сапраўды, усё тут пачалося ў студзені 1987 года, калі чыжоўскія самадзейнікі ўзялі ўдзел у раённым аглядзе каляднікаў у Гайнаўцы. Занялі там першае месца, і гэта акрыліла іх. Праз год адбыліся іх „хрысціны”.

За мінулыя дзесяць гадоў спявалі дзе толькі маглі: на дажынках, розных фестывалях, турнірах, на з'ездах. І — калі былі гэта спаборніцтвы — заўсёды займалі лепшыя месцы. На Фестывалі беларускай песні ў 1997 годзе атрымалі яны спецыяльную ўзнагароду: запіс іх песень на касету ў Польскім радыё ў Беластоку. Цяпер іх спевы можна часта пачуць і на антэне Беластоцкага радыёвяшчання.

Ды і самі яны арганізуюць многа цікавых мерапрыемстваў на месцы. Вось хаця б Рэгіянальны навагодні вечар, Запусты, Свята беларускай культуры, Асеннія спатканні з фальклорам ці турнір калектываў. Адным словам, за дзесяць гадоў далі яны 148 канцэртаў.

Відаць, што нездарма калектыву прызналі калектыўную ўзнагароду — залаты знак „Заслужаны для Беласточчыны”, які ўручае дырэктар Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі. І нездарма ў мінулым годзе Чыжоўская гміна на чале з войтам Рыгорам Мацкевічам, у якога культура на п'едэстале, заняла другое месца ў культурным рэйтынгу гмін Беластоцкага ваяводства. Войт так і сказаў: „Часамі мы чуем: нашто вы выдалі столькі грошай з бюджэту на культуру? А мы яе і так будзем фінансаваць!”

Сёння ў калектыве спявае восем чалавек. Гэта тры сужонствы: Яўгенія і Васіль Якімюкі, Марыя і Рыгор Якімюкі, Вольга і Ян Ахрымюкі, ды яшчэ Яўген Кавальчук і Міраслаў Бількевіч. Кіруе калектывам Міхась Аўхіменя, выкладчык Гродзенскага універсітэта, які даязджае на рэпетыцыі.

Калі Міхась прыедзе, кажа Вольга Ахрымюк, спяваем у ГОКу. Але невядома, ці доўга яшчэ ён будзе прыязджаць. Гміна занадта многа грошай не мае, чалавек жа амаль задарма ездзіць... Міхась — чалавек скромны. Чым яго пачастуеш, тое ён і з'есць. Часамі сам возьме. Але паўгаворвае: стары я ўжо...

Такіх людзей — думаецца і нам — трэба трымаць любой цаной.

Калектыў „Чыжавяне” спявае на роднай мове, на сваім палляшуцкім дыялекце, але таксама і беларускія народныя песні на літаратурнай мове. На ніякай мове не перадасі пачуццяў так, як на той, на якой узгадавалі цябе бацькі, якую ты чуў ад калыскі. Калектыў культывуе таксама народныя традыцыі, ставячы розныя абрадныя сцэнкі і беручы ўдзел у аглядах абрадных калектываў.

Мінула бурлівае дзесяцігоддзе „Чыжавян”. Ці мы, калі збіраліся, думалі, што столькі гадоў будзем спяваць? — Вольга Ахрымюк задумоўваецца над прамінаннем часу. А я думаю, што сэнс і роля іх мастацкай працы таксама важныя і непрамінаючыя, як і ўсё тое добрае, што кожны з нас хацеў бы пакінуць па сабе.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*



*Суседкі — „Збучанкі” віншуюць „Чыжавянкі”.*

# Юбілейныя святкаванні

22 лістапада 1997 года беларускі калектыў песні Гайнаўскага дома культуры святкаваў пятнаццацігоддзе свайго існавання. З гэтай нагоды адбыўся 270-ы канцэрт, спалучаны з выстаўкай найбольшых дасягненняў, на якой экспанаваліся дыпломы і фатаграфіі з фестываляў і канцэртаў.

— Вашы песні — гэта найбольшы падарунак для публікі з нагоды супольнага свята, — заявіла бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінска-Патэюк, распачынаючы афіцыйную частку мерапрыемства. — Беларускі калектыў песні з'яўляецца візітнай картачкай не толькі Гайнаўкі, але і ўсяго нашага рэгіёна.

Аднак святкаванні не пачаліся ад афіцыйнай часткі, але ад канцэрта беларускай песні. Паколькі рэпертуар калектыву багаты, было што і паслухаць. Напераменку выступалі то жанчыны, то мужчыны, то ўвесь калектыў, для якога іграла інструментальная капэла. Усе выканаўцы ледзь памясціліся на сцэне (каля трыццаці асоб). Многа было песень сабраных у вёсках Гайнаўшчыны. Калектыў рашыўся паказаць найлепшае, але, перад усім, са свайго панадворка. Песні „Ой свята, свята”, „Пасылала баба дзеда” ці „Вэчур вэчорэ” былі добравядомымі выхадцам з вёсак, якія ў асноўным складалі публіку мерапрыемства.

— Важна, што асноўны рэпертуар — гэта свае песні, не нейкія там апрацаваныя ў Мінску, — сказаў адзін з гледачоў. — Трэба захоўваць сваё, бо вельмі хутка і забудзем, што такія песні спявалі ў нашых вёсках.

Беларускі калектыў песні ГДК паўстаў у чэрвені 1982 года, а яго заснавальнікам і шматгадовым дырыжорам быў Аляксандр Лукашук. Пасля дырыжорамі былі Дзмітрый Ціханюк і Міхал Артышэвіч. Ад 1988 года як акампаніятар і кіраўнік інструментальнай капэлы працуе Мікола Сідарук. Анна Стрыха з'яўляецца ад 1989 года артыстычным кіраўніком і дырыжорам. Ансамбль выступаў з канцэртамі ў розных мясцовасцях і вёсках Беласточчыны і іншых ваяводстваў, у Беларусі і Чэхіі. З'яўляецца ён шматгадовым лаўрэатам раённых і цэнтральных аглядаў „Беларускай песні”. У 1992 годзе быў узнагароджаны Ганаровым дыпломам міністра культуры і мастацтва і калектыўнай адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны”.

У час мерапрыемства віцэ-ваявода Гжэгаж Рыцкоўскі ўзнагародзіў многіх шматгадовых удзельнікаў залатымі і сярэбранымі адзнакамі „Заслужаны для Беласточчыны”, а ўзнагароды міністра культуры і мастацтва „Заслужаны дзеяч культуры” ўручыла бурмістр Гайнаўкі. Вядучы канцэрт, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікола Бушко прыгадаў заслугі артыстычнага кіраўніка і дырыжора Анны Стрыхі, а публіка пацвердзіла гэта моцнымі воплескамі. Заўважана ім была таксама вялікая праца акампаніятара і кіраўніка капэлы Міколы Сідарука.

Цёплых слоў адрасаваных калектыву не шкадавалі іншыя прысутныя госці. Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Бурскі падарыў карціну, а пасля зачытаў віншаванні ад беларускага ўрада і міністра культуры РБ.

— Сказалі мне, што карціна гэтая паказвае вецер, — прызнаўся пасол. — Няхай гэта будзе вецер, які спалучае ўсіх беларусаў.

У зале быў прысутны таксама і Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікола Крэчка, які замясціў у Беластоку Міхаіла Слямнёва. Пасля голас узялі іншыя госці, якія прыйшлі павіншаваць калектыў з пятнаццацігоддзем працы. Усе звярталі ўвагу на высокі мастацкі ўзровень выкананых песень і іх прыгажосць. Былі і ўспаміны.

На завяршэнне канцэрта прагучала славутая „Лявоніха”, а маладыя танцоры Гайнаўскага дома культуры затанцавалі пад яе мелодыю. Публіка гарачымі воплескамі дзякавала Беларускаму калектыву песні з Гайнаўкі за незабыўныя ўражанні ад канцэрта.

**Аляксей Мароз**

*Фота Міколы Ваўранюка*



# Закрылі „Свабоду”

24 лістапада г.г. Вышэйшы гаспадарчы суд у Менску адабраў рэдакцыі „Свабоды” ліцэнзію на друк і распаўсюджванне газеты. Вядома, што гэты суд толькі зачытаў галоўнаму рэдактару Ігару Гермянчуку прыгавор, які выдаў Лукашэнка. Ніякіх незалежных судоў у Беларусі даўно ўжо няма.

„Свабода” была апошняй шматтыражнай незалежнай газетай. Яе дэлегалізацыя абазначае ліквідацыю канкурэнцыі для таталітарнай прапаганды. Да гэтай пары Лукашэнка імкнуўся пераконваць грамадства Беларусі і Еўропы, што ён дэмакрат, паказваючы прытым на існаванне незалежнага друку. Цяпер, відаць, вырашыў не пераймацца тым хто і што аб ім думае. Яго ўлада пабудаваная і так на паліцэйска-адміністратыўных структурах, а вынік выбараў, калі нават будуць яны праводзіцца, вядомы будзе загадзя. Галасаванне ў Беларусі стала ўжо толькі фармальнасцю.

Улада Лукашэнкі ствараецца на тых самых падставах, як усіх іншых еўрапейскіх дыктатараў XX стагоддзя. Усе яны таксама пачыналі з абмежавання свабоды слова і думкі. Пасля незалежнае мышленне стала звычайным злачынствам, а страх — асноўным фактарам у кіраванні грамадствам. Гулагі былі толькі тэхнічным завяршэннем узніклай сітуацыі.

Дактатура ў Беларусі абазначае чарговую хвалю рэпрэсій супраць усіх праяваў беларускасці. Толькі што пачалося адраджэнне беларускай культуры, мовы, вяртанне да памяці асноўных элементаў нацыянальнай гісторыі, пачынала стварацца свая эліта, а зараз жа з'явілася сістэма ў выглядзе лукашызму, якая пачала з ліквідацыі элементаў незалежнай дзяржаўнасці — беларускага герба, сцяга і мовы.

Год таму лукашэнкаўцы разагналі дэпутатаў, сярод якіх было некалькі самастойна думаючых палітыкаў, сфальшавалі рэферэндум, сёння — закрылі незалежную газету. Што будзе заўтра?

**Яўген Міранові**

Адгалоскі

# Ці забыты ў нас Усевалад Ігнатоўскі?

Спадар Францішак Берніковіч у дopісе „Ушануйма нашых землякоў” („Ніва” н-р 47 ад 23 лістапада 1997 г.) піша аб У. Ігнатоўскім, што ён быццам бы ў нас зусім забыты.

Немагчыма згадзіцца з такім поглядам, бо асоба У. Ігнатоўскага цікавіла беларускае студэнцтва ў 80-я гады. Яго імем названае было стваранае Яўгенам Вапам падпольнае выдавецтва, якое ў 1988 г. перавыдала брашуру А. Калубовіча „Акт 25-га сакавіка й Адраджэньне Нацыянальнай Беларускай Культуры”. У гэты самы год студэнты перавыдалі кніжку А. Калубовіча „Айцы БССР і іхны лёс”, у якой шмат месца адводзіцца асобе У. Ігнатоўскага. Абедзве перавыдадзеныя працы А. Калубовіча мелі даволі вялікі, узважыўшы абставіны, круг чытачоў.

У тым жа 1988 г. студэнты арганізавалі рэйд „Бацькаўшчына-5” з Драгічына ў Чаромху. Адной, а ці не галоўнай, з мэтаў мерапрыемства было наведанне Такароў, каб адшукаць сляды У. Ігнатоўскага.

На месцы высветлілася, што Такары падзелены дзяржаўнай мяжой. Асноўная частка вёскі, з царквой і школай, засталася па той бок мяжы. Амаль усё беларускае насельніцтва гэтай часткі вёскі, якая апынулася на польскім баку, пераехала на савецкі бок. Засталіся толькі чатыры сям'і. Мясцовы старажыл, якога мы з Я. Вапам распытвалі чаму так сталася, нейкі час скрываў праўду, збянтэжаны прысутнасцю шматлікіх удзельнікаў рэйду, у тым ліку аднаго варшавяка. Калі мы нарэшце засталіся ўтраіх, Яўген Вапа проста папрасіў: „Скажэтэ дїэду, як було?” Тады дзед адказаў: „Прыйшлі акаўцы, застрэлілі чатырох нашых хлопцаў, а ўсе астатнія ўцяклі на той бок. Акаўцы нас туды выганялі, у „савецкі рай”, як гаварылі. Я таксама ўцёк, але пасля вярнуўся”.

Пасля выгнання беларусаў іхнія дамы занялі палякі — „рэпатрыянты” з Беларусі. Як Ігнатоўскі, так і ўся беларушчына ім чужыя. З тамашнімі моладдзю згулялі мы ў валейбол.

З Такароў запамяталася мне цудоўная старадаўняя хата згаданага дзеда, з усім дваром і нябачаным мною калодзежам у кшталце варонкі, выкладзенай амшэлымі камянямі. Дзед ведаў каштоўнасць свайго двара і нават прасіў, каб мы купілі хату, бо баяўся, што пасля ягонай смерці дзеці не ўшануюць спадчыны і проста яе аддадуць на падпалку.

Усевалада Ігнатоўскага можам прыпісаць да Беласточчыны з пэўнай нацяжкай. Нарадзіўся ён па той бок мяжы. Усё-такі яго сям'я нейкі час, у гадах 1890—1891 жыла ў падгайнаўскіх Дубінах, дзе бацька У. Ігнатоўскага, Макар, быў настаўнікам у народным вучылішчы і адначасова псаломшчыкам, а з 1899 г. дыяканам у тутэйшай Свята-Успенскай царкве. Усевалад большасць часу праводзіў па-за домам, бо вучыўся ў духоўным вучылішчы і семінарыі ў Вільні. Тым не менш і наша вёска была асяроддзем, у якім ён рос.

На канец аднясуся да прапаноў Ф. Берніковіча наконт ушанавання памяці У. Ігнатоўскага:

Мемарыяльнай дошкі ставіць няма дзе. Рэйд правялі мы з вядомым вынікам. Прапанову арганізаваць нейкі фэст лічу недаразуменнем.

На мой погляд, найлепшае дзела ўшанавання памяці вялікага гісторыка месца — Беларускі музей у Гайнаўцы. У ім трэба стварыць адпаведную экспазіцыю. Варта было б таксама набыць для праектаванага пры музеі скансэна якраз тую хату з Такароў. Калі яна яшчэ не пайшла на падпалку, натуральна.

**д-р Алег Латышонак**
**Старшыня Беларускага гістарычнага таварыства**

# Беласточчына якой не ведаем

Слухаючы даклады пра беларусаў Сакольшчыны падчас канферэнцыі, арганізаванай 16 лістапада г.г. Беларускім гістарычным таварыствам, міжволі ўзнікала пытанне: чаму выдатныя патрыёты, культурныя і палітычныя дзеячы, стваральнікі нацыянальнай культуры не пакінулі ніякага следу ў памяці сваіх землякоў. У вёсках, дзе яны нарадзіліся, сённяшнія жыхары пра іх найчасцей нічога не чулі. Часам нават іх блізкія нямнога ведаюць пра сваіх родзічаў. Іх лёсы і біяграфіі былі наогул найлепш вядомыя паліцыйным службам чужых рэжымаў. Калі, напрыклад, савецкія гісторыкі пісалі пра беларускіх патрыётаў, найчасцей прадстаўлялі іх праз прызму абвінавачанняў сталінскіх пракурораў. У кожнай апрацоўцы атрымалася тады, што Уладыслаў Казлоўшчык — гэта вораг беларускасці, фашыст, здраднік. Але так заўсёды бывае, калі гісторыю народа пішуць людзі, якія за дробныя сярэбранікі гатовы служыць яго ворагам.

Адсутнасць беларускай дзяржаўнасці паўплывала на тое, што замест біяграфій беларускіх патрыётаў дзеткі ў школах пазнаюць як нацыянальных герояў тых, што зняволілі Бацькаўшчыну. Іменамі Дзяржынскіх, Суворавых, Кнорынаў, Ландэраў, Машэравых названы былі школы, вуліцы, навуковыя і культурныя ўстановы. Іх партрэтамі запоўнены ўсе энцыклапедыі і школьныя падручнікі. Тыя, што марылі і змагаліся за свабодную Беларусь, называюцца ў гэтых выданнях здраднікамі.

Нас на Беласточчыне доўгімі гадамі туманілі, што беларускасць тут нарадзілася толькі пасля II сусветнай вайны, пры Народнай Польшчы. Калі толькі нашы гісторыкі сталі вывучаць дакументы, аказалася, што нацыянальны беларускі рух існаваў тут і пры царскай, і пры санацыйнай, і пры нямецкай уладах. Беларуская інтэлігенцыя Беласточчыны, таксама як інтэлігенцыя іншых куткоў Беларусі, плаціла высокую цану за свае чалавечыя мары. Рэдка бывала так, што адно пакаленне паспела перадаць свае дасягненні наступнаму. Часцей за ўсё кожнае новае пакаленне вымушана было пачынаць ўсё ад пачатку.

Змест дакладаў гісторыкаў з Беластока, Гародні, Менска зачытаных на сакольскай канферэнцыі паказвае іншую гістарычную рэчаіснасць Беласточчыны, але перш за ўсё памеры асіміляцыі. Сакольшчына — найбольш беларуская з усіх беларускіх земель — патраціла амаль зусім свой нацыянальны характар. Адзіным аптымістычным фактарам нашай сумнай гісторыі ёсць тое, што пачалі мы яе вяртаць памяці наступным пакаленням, называючы пры тым белае белым, а чорнае чорным.

**Яўген Міранові**

Адгалоскі

# Адзін у полі — не воін

Не можа быць кампрамісу ў справе рэжыму Лукашэнкі. Гэта ніякае „авантурніцтва”, калі адмоўна ставяцца да дыктатуры на Беларусі. Гэта не толькі мой пункт гледжання, але ўсяго цывілізаванага свету. Пасол Сычэўскі выказванне чытачамі сваіх поглядаў на старонках „Нівы” называе авантурніцтвам. Мне здаецца, што большым авантурніцтвам з'яўляецца ўвядзенне паліцэйскага рэжыму ў дзяржаве, вяртанне да сталінскіх метадаў расправы з усялякай апазіцыяй, чым крытычныя думкі аб аўтарытарным кіраванні краінай.

У „Gazecie Wyborczej” чытаю, што сто дзеячаў беларускай культуры і навукі, палітыкаў, журналістаў, прадстаўнікоў незалежных прафсаюзаў і іншых арганізацый стварылі так званую Хартыю'97, каб ваяваць з таталітарызмам. Ці гэту ініцыятыву беларускіх патрыётаў пасол Сычэўскі таксама назаве авантурніцтвам? Шкада, што Ада Чачуга, журналістка „Нівы”, якая гутарыла з паслом, не спытала яго як разумее ён „нармалізацыю адносін з Рэспублікай Беларусь”, каб не было ніякага авантурніцтва?

З аднаго боку знакамітыя прадстаўнікі „Хартыі '97” хочуць зрушыць таталітарную нармалізацыю, з другога боку прадстаўнік польскіх беларусаў хоча нармалізаваць, разлічваючы „на дапамогу Беларусі ў нашай дзейнасці ... (музей, касцюмы, інструменты, студэнты)...” Штосьць за штосьць. За падтрымку рэжыму Лукашэнкі даюць ордэны на грудзі і дапамогу ў дзейнасці. Калі б дапамога была бескарыслівай, дзяржаўныя ўстановы Беларусі не перашкаджалі б прадаваць „Ніву” ў Беларусі.

Вось і шантаж, і добрае самаадчуванне: „Калі будзе імкненне да праўды, талерантнасці...”, калі „усялякая крытыка будзе (будзе — М. К.) канструктыўнай і абапірацца на фактах”, то ласкава „...ніякіх перашкод у нашым (значыць з боку пасла — М. К.) супрацоўніцтве не будзе”. Калі перавядзем гэта на зразумелую мову, то гэта значыць больш-менш так: „Ніва”, падай на калені і бій паклоны адзінаслушным прадстаўнікам беларускай грамадскасці. Па-мойму, гэта мышленне з мінулай эпохі, калі адзінаслушныя погляды мелі сакратары і дзяржаўныя чыноўнікі, а адзінаслушнай крытыкай была крытыка „канструктыўная”. А ўся крытыка магла быць толькі канструктыўнай.

Калі ўжо можна было крытыкаваць, хаця неканструктыўна, розныя галіны дзейнасці Галоўнага праўлення БГКТ і то не дзеля разбівання грамадскасці, а дзеля, карацей кажучы, прагрэсу, то крытыкуючых, а гэта была ў большасці моладзь, назвалі ворагамі. Пэўна, пасол Сычэўскі забыўся, хто кідаў калоды пад ногі беларускім выбарчым камітэтам некалькі гадоў таму назад, хто ствараў розныя альтэрнатыўныя камітэты, каб яновічы ў паслы не папалі? Што?! Выцягнуць з архіва „Нівы” і паказаць, хто мінаўся з праўдай?

А можа наадварот, спадар пасол?

Можа ваш бок (значыць, БГКТ) скажа: прабачце, тут і тут мы рабілі кепска. Чалавек блудзіць, вядома. Не ўпускалі мы фактычна моладзі ў будынак, каб маглі яны весці рэпетыцыі, фактычна прамантачылі камп'ютэры, фактычна вялі кепскую гаспадарчую дзейнасць, слухалі ва ўсім тых з ВК, фактычна душылі ўсялякую крытыку нашай дзейнасці, спрыялі ўсялякім гнілым кампрамісам (справа навучання беларускай мовы) і яшчэ, і яшчэ розныя недахопы нашай, значыць вашай дзейнасці. Калі вы, спадары, ужо так усё публічна скажаце, можа тады не будзе ніякіх перашкод у нашым супрацоўніцтве. Будзем гутарыць як беларус з беларусам.

Будзем мы глядзець на вашу, пасол Сычэўскі, дзейнасць у Сейме, будзем глядзець каму служыце і калі ваша там дзейнасць будзе нам адпавядаць, атрымаеце падтрымку на наступных выбарах не дзвюма-трыма тысячамі галасоў, а дзесяткамі, сотнямі тысяч. Тады не будзеце адзіным у полі воінам.

**Міхась Куптэль**

**БЕЛАВЕЖА**

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 455

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

Міра Лукша

## Час світання

Я не ўмею чакаць,
Хоць жанчына павінна
З-пад рукі выглядаць,
Скуль павінен вяртацца мужчына.

Час матуль і жанок — гэта вернасці час,
Час бабулі і маці — час дзяцей і прыроды.
І хоць „часу не мае” яна для сябе,
Уся яе і рашучасць, лагода,

І ўменне дарыць, браць адчай на сябе,
Не лічыць ні начэй і ні ранняў,
Даравацъ усім усё у мальбе і сяўбе;
Гэты час — гэта ёсць час світання.

Час надзеі і мар, час крыніц і дарог,
Час, калі нараджаецца Вечнасць...
Дом, агмень, хлеб і соль, і пабіты парог.
Кропля цёплая — Зямля ў Шляху Млечным.

Я не ўмею чакаць...



*Мал. Міколы ДАВІДЗЮКА*

Адам Загаеўскі

## Расія ўваходзіць у Польшчу

*Іосіфу Бродскаму*

Скрозь нівы і межы, лясы і мястэчкі,
суне конная армія, пешыя, цокаюць коні,
едуць гарматы, хлопцы ідуць, ваякі старыя, дзеці,
сыплецца пер'е, бягуць харты худыя,
следам сані, кібіткі, фіякры, пабеды,
плывуць караблі, плыты і пантоны,
лодкі і судны і душагубкі,
аэрастаты ляцяць, ракеты, бомбаскідальнікі,
снарады марціраў свішчуць модныя арыі,
чуваць енкі лупцоўкі, крутасць загадаў,
песні едуць паветрам як сталёвыя ноты,
цягнуць юрты, палаткі, напінаюць вяроўкі,
дрыжаць угары ільняныя харугвы.
Бягуць колькі духу нежывыя кур'еры,
ляцяць дэпешы, свечы гараць сцямнелым фіялетам,
п'яныя спяць верхаводы ў нябачных карэтах,
шэпчуць малітвы папы вернападданыя
і месяц таксама ідзе ў жалезным паходзе,
танкі ідуць, корцікі і едуць шаблі,
свішчуць кацюшы як імгненныя каметы,
іграюць свістулькі, скураныя бубны,
сцёбаюць пугі, цяжка ўздыхаюць
насцілы паромаў, навалы, ідуць сыны стэпу,
вызнаўцы ісламу, смертнікі, прыхільнікі Байрана,
гульцы, нашчадкі Азіі, кульгае Сувораў,
за ім услужлівы таньчыць прыдворак,
цячэ жоўтая Волга, бурляць рэкі Сібіры,
крочаць вярблюды паволі, у задуменні,
нясуць пяскі пустыні і мокрыя відмы,
касавокія крочаць кіргізы і чорныя
перамяшчаюцца зрэнкі ідалаў уральскіх,
за імі школы, настаўнікі, паэты і мовы,
як леднікі сунуцца драўляныя сядзібы,
ідуць нямецкія лекары, кампрэсы, пластыры,
раненыя з тварамі алебастравымі;
палкі ідуць, дывізіі, конныя арміі, пешыя,
Расія ўваходзіць у Польшчу, зрываючы
лісце, істужкі бабіна лета і павуцінне,
сухажылле, дамовы, граніцы,
сяброўства, масты, сувязі, ніці,
вяроўкі з прасохлай бялізнаю,
брамы, злучнікі, бінты, аорты,
будучыню і надзею;
Расія ўваходзіць у вёску над Пiліцай
і ў лясы глыбокія Мазовіі,
зрывае афішы і соймы, дратуе дарогі,
кладкі і згоды, рэчкі, сцяжыны.
Расія ўваходзіць у век васемнаццаты,
у плач і сумленне, у напругу студэнта
і ў шчаснасць няўвагі муроў разагрэтых,
на лугі поўныя зёлак, у лясныя глухія прасекі,
рэзеду топча, браткі, у вільготным
імху пакідае сляды капытоў, гусеніц, шынаў,
валіць коміны, дрэвы, палацы,
гасіць святло, у парках ангельскіх
кастры раскладае, муціць чыстыя воды,
знішчае касцёлы, ратушы і бібліятэкі,
ускідае пад неба штандары пурпуры.
Расія ўваходзіць у маё існаванне,
Расія ўваходзіць у думкі мае,
у вершы мае ўваходзіць Расія.

*Пераклаў з польскай Ян ЧЫКВІН*

# Як толькі...

*Словы Генадзя БУРАЎКІНА*
*Музыка Міколы ЯЦКОВА*




Як толькі ў густым вечаровым
тумане
Ускрыкне вавёрка ці птушка якая,
Цяжкое халоднае прадчуванне
Мне сэрца сціскае,
Зноў сэрца сціскае.

Далёкай Радзімы забытыя цені
Выходзяць, нячутыя, з лесу старога.
Ва ўсе спадзяванні,
На ўсе летуценні
Крадзецца трывога,
Кладзецца трывога.

У памяць заходзіць рашучай
ступою
То вобліск зарніцы,
То водгулле грома.
І думка адна не дае супакою:
А як жа там дома?
Ну як жа там дома?..

Няхай сабе ціха,
Няхай сабе глуха —
Імя Беларусі душа паўтарае.
Няўжо не пачуе ніводнае вуха
Ва ўсім родным краі,
Па ўсім родным краі?..

Сакрат Яновіч

# Няўдалая пакража

Ехалі на Верхлес. Грузавічок знаёмца ламарэндзіў. Над трыбаю ўжо віселі зоркі, яшчэ бледныя ў надыход ночы. Вуркат занядбанага матора надаваў рызыкі папасціся лесніку.

— Пастанем, — сказаў знаёмец, і скрыгатліва спыніў машыну.

Абодва мы, я і ён, павылазілі з шафёркі і, разглядаючыся ды паслухваючы, закурылі.

— Лес ціхі ў такую пару, — зноўку азваўся ён, маючы на ўвазе далёкую чутнасць нашае язды. — Паветра сырое, нясе, як над вадою...

Блізка і коратка затрашчаў сухапад. Я міготка вытрашчыўся туды, у кустоўе пакрай вырубак.

— Казюля, — супакоіў ён мяне, — цікаўлівая, бы авечка... Ну, паехалі, — акурак утаптаў у пясок і гультаявата ўзяўся ўсядацца за кіраўніцаю, аж загайдалася кузава. Я спешліва зацягнуўся папяросінаю, жар падпёк пальцы.

Нам трэба было ў сасновік, у якім надоечы нагледзеў ён гатовыя фэстметры. Пастаўлена іх, відацьме, з прарубак. Якраз яны мне пад руку, на зіму ў печку. Тым часам, над верхавінаю, бы на каляднай елцы з жыдоўскай гвяздою, засвяціў месяц. Сярпасты, усё роўна што ў напамін майму з ім мужыцтву.

Уязджаючы ў тую заглуш, мы з недаверлівай панікай згледзелі перад сабою свежыя каляіны ў макрэчы; укалдобленыя заглыбіны ад буксавання, чорныя папоцемку, бы нарыіны дзіка.

— На „Жука” ладавалі, — адгадаў знаёмец марку праехаўшай нядаўна сюдою лёгкай таварнай машыны. Але, і ён і я, падумалі адно: нехта паспеў перад намі, добра завідна ды, можа быць, выкупіўшы ў надлясніцтве асігнату...

От блядзь! — выклпочыўшы матор, ён першы адчыніў дзверцы і, не ставячы нагі на ступеньку, саскочыў на зямлю, мала не распароўшыся ад раптоўнага кашлю, калі б не той рыпат шырознае дзягі. Шапатліва крануўшы палою курткі галінку счырванелага куста. Чуйна загледзеўся кудысьці, быццам убачыўшы ўцякаючых.

Я — адзеравянелы — не рушыўся, брыняючы нелагічным сполахам.

Ён, нічога больш не кажучы, пайшоў чагосьці дапераду; ягоная клункастая постаць растварылася ў імглеючай цемрачы; вяртанне доўжылася. Мне пачынала здавацца, што гэта дзіўны ў мяне сон, які, вось, скончыцца і я прачнуся ў выгратай пасцелі, устану і накіну сабе на плечы халат, уступлюся ў пухкія шлэмбы, зайду ў кухню згатаваць кубак чорнае кавы... Жонка якраз падалася ў Саколку, да лекара; яна цяжарная. Я адзін дома.

Знаёмец паўстаў назад перада мною рыхтык язьіцкі дух, ажно я ўздрыгануўся. Пакуль сказаў ён што, я ўсё зразумеў.

Сказаў:

— Хапанулі мэтры... Лепшыя, блядзь, зладзеі... Не, без асігнатаў. Калі б яны іх мелі, не згубілі б шапку, не пакінулі б танчэйшыя кавалкі...

Злосна насопшыся, выхаркаўся пасля ды з прывеселкам дадаў — гэты тутэйшы прымак-паляшук:

— Господіваўсе дід на мэд і ліёг спать ны еўшы, блядзь...

Чорт пабраў, а я ж так моцна ўсеўся на ўдачу! І на яго паляшуцкую бесцырымоннасць, на заядлую ў ім неадступнасць патомнага халопа, падкага на дарэмшчыну, і бязбоязнага сам-насам з небяспекай у цёмным лесе. Калі танчэйшыя валяюцца, дык хоць такога дрэва набраліся б, але я змаўчаў пра тое. Я, проста, збаяўся падказаць яму тую карысць, прадчуўшы ў ім ганебны страх, такі ніадкуль і безнадзейна паніжаючы мужчыне, невытлумачальны, які бывае ў старэючага чалавека.

Пагазавалі паражняком дахаты.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Школа ў Старым Ляўкове

У Пачатковай школе ў Старым Ляўкове вучыцца 126 школьнікаў. Разам са школай працуе дзіцячы садок. Такім чынам у Ляўкове ёсць больш за 150 навучэнцаў.

Апрача мясцовых тут вучацца дзеці з Новага Ляўкова, Падляўкова, Ахрымоў, Капітаншчыны, Бэрнацкага Моста, Плянты.

Сустрэча са школай і навучэнцамі выклікае добрыя ўражанні. Задбаныя прасторныя залы, чысціня, вясёлы гоман на калідорах. На жаль, у школе няма кабінета беларускай мовы.

— Затое маем урокі музыкі пабеларуску, — кажуць настаўнікі.

У школе працуе Фёдар Сідаровіч з Беларусі. Зараз рыхтуе ён таленавітых спевакоў да конкурсу беларускай песні.

— Будзем прымаць удзел у беларускім прадметным і тэатральным конкурсах, — кажа Раіса Баканач — настаўніца роднай мовы ў старэйшых класах.

Да прадметнага конкурсу рыхтуюцца Тамаш Балтрамюк і Тамаш Трусевіч.

У Ляўкове беларускай мовы навучаюць яшчэ тры настаўніцы: Крыстына Аніскевіч, Святлана Скепка і Ірэна Сухадола.

— Нашы вучні любяць урокі роднай мовы, — чую ў настаўніцкім пакоі. — Многія з іх ідуць потым у Гайнаўскі беларускі ліцэй. А ў апошнія гады нашы выпускнікі штудзіруюць у Беларусі. Да таго яны паступаюць на элітарныя кірункі — лінгвістыку, медыцыну, матэматыку, акадэмію мастацтваў. Вось, напрыклад, Крыстафор Сухадола закончыў у Інстытуце замежных моў лінгвістыку, Ася Карольска — студэнтка медыцыны, Эля Пякарская штудзіруе матэматыку. Цікава, што згаданыя студэнты паўплывалі на пашырэнне зацікаўлення роднай мовай. Іх прыклад заахвочвае вывучаць гэты прадмет.

— Ды не толькі практычна ставяцца нашы вучні да беларускай мовы, — кажа спадарыня Баканач. — У старэйшых класах моладзь хоча гаварыць пра мову, пра дыялекты, пра гісторыю.

— А ў малодшых, — кажа спадарыня Сухадола, — дзеткі бывцам зачараваныя слухаюць беларускія казкі, легенды, вершыкі і загадкі. І што цікавае, зараз бацькі вучаць дзяцей польскай мове, але гэтыя дзеткі, калі падрастаюць, самі пачынаюць гаварыць на беларускай мове. Ужо як свядомыя людзі. Гэтай з'яве спрыяе паўсюднае выкарыстанне беларускай мовы ў вёсцы і наваколлі.

У ПШ у Ляўкове 90% дзяцей вывучае беларускую мову.

— Нават некаторыя каталікі, — дадаюць настаўнікі.

У час маёй пабыўкі ў Ляўкове школьнікі святкавалі „Анджэйкі". Вучні восьмага і сёмага класаў сядзелі за святочным сталом.

Расказ пра працу рэдакцыі і Сустрэчы „Зоркі", здаецца, выклікаў зацікаўленне. Новыя сябры паабяцалі супрацоўнічаць з нашай праграмай Сустрэчы „Зоркі".

— У беларускіх радыёперадачах заўсёды гавораць і захвальваюць свае сталовыя, — уключаецца ў размову працаўніца школы. — А ў нас таксама выгода школьнікам. 98 працэнтаў вучняў карыстаюцца сталовай. Гэтая паўсюднасць выклікана тым, што за абеды дзеці плацяць толькі 15 зл. у месяц.

Мне пашанцавала таксама пакаштаваць школьны абед. А пасля яшчэ мы сустрэліся, каб зрабіць памятны здымак у „Зорку".

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*


*Настаўнікі і вучні малодшых класаў.*

# Малюнкі з Чыжоў




*Аўтарамі гэтага малюнка з'яўляюцца сямікласніцы Аня Бачынская і Аліна Сіроцкая.*

# „Паэзія — гэта падарожжа Падарожжа ў глыбіню сябе"

Кожны, хто зацікаўлены паэзіяй, меў нагоду адправіцца супольна з паэтэсай Надзеяй Артымовіч і яе творамі ў „падарожжа ў глыбіню сябе". Цытата гэта паходзіць з аднаго з інтэрв'ю з паэткай.

9 кастрычніка г.г. у $17^{00}$ гадзін у Бельскім доме культуры адбыўся вечар паэзіі Надзеі Артымовіч.

Ужо само прыбранне памяшкання ўводзіла ў прывабны настрой. Удзельнікі сустрэчы, слухаючы вершы ў выкананні паэтэсы, маглі адпачыць ад штодзённых клопатаў. Да пачатку ўласнай інтэрпрэтацыі вершаў „Ікона" і „Свет укінуты" прывіталі ўсіх вучаніцы Бельскага беларускага ліцэя — Галена Сідэвіч і Моніка Калішэвіч. Трэба сказаць, што дзяўчаты — добрыя дэкламаткі. Красамоўна сведчыць аб гэтым факт, што яны — лаўрэаткі мінулагодняга цэнтральнага дэкламатарскага конкурсу „Родная мова". Варта нагадаць, што творы Надзеі Артымовіч штораз часцей паяўляюцца на аглядах гэтага конкурсу.

Цікава пра творчасць Надзеі Артымовіч расказала вядучая вечар Альжбета Тамчук. Вядома, што творчасць такой вялікай індывідуальнасці, як спадарыня Артымовіч, заслугоўвае на вялікае прызнанне.

Прыемна пазнаёміца з выдатнай паэткай, спецыялістам у галіне літаратуры. Надзея Артымовіч — літаратарка начытаная і арыгінальная. Яна амаль 30 гадоў прафесіянальна займаецца літаратурай.

Яна — член Літаб'яднання „Белавежа", Саюза польскіх літаратараў, аўтарка шасці зборнікаў паэзіі.

Надзея Артымовіч захапляе мяне не толькі як таленавітая паэтка. Яна захапляе мяне таксама як чалавек — сціплы і высакародны.

**Жанэта Роля**

## Гаротная сінічка

Сінічка, птушачка маленькая
На яблыньцы ціхенька пенькае,
Пёркі чупурыць — так холад адганяе,
Ножкамі прытупвае —
боцікаў не мае.

Чарвячка не знойдзеш
Сёння пад карою
І паснулі мушкі
Зімовай парою.

Бурчыць у кішачках у сінічкі:
З'есці хоць ячмення, хоць пшанічкі,
Якуюсь крышынку, зернейка якое,
Можа нават быць як макава малое.

Чарвячка не знойдзеш
Сёння пад карою
І паснулі мушкі
Зімовай парою...

Кінем у кармушку рабіны, пшаніцы
І павесім сала на шнурку сініцы.
Круп насыплем, проса і аўса
мы з вамі:
Новы год хай стрэне сініца з сябрамі!

**Міра Лукша**

# Усевалад Ігнатоўскі

Усевалад Ігнатоўскі быў найбольш сумленным беларускім савецкім гісторыкам даваеннага перыяду. Нарадзіўся ён у 1881 годзе на Беласточчыне, у вёсцы Такары, што ў Мельніцкай гміне. Дзякуючы сваёй таленавітасці атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1912 годзе Ігнатоўскі пачаў настаўніцкую працу ў Віленскай прыватнай жаночай гімназіі. У 1914 годзе пасяліўся ў Менску. Там Ігнатоўскі стварыў культурна-асветную арганізацыю „Наш край", якая ў 1917 годзе памяняла назву на „Маладую Беларусь". Падчас польска-савецкай вайны 1920 года за беларускія землі Ігнатоўскі выказаўся за стварэнне камуністычнай беларускай дзяржаўнасці. Быў адным са стваральнікаў савецкай Беларусі. Дзякуючы яго намаганням Расія ў 1924 і 1926 гадах вярнула Беларусі Віцебшчыну і Магілёўшчыну.

Ігнатоўскі быў галоўным архітэктарам беларусізацыі грамадскага, культурнага і палітычнага жыцця ў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспубліцы ў 1923-1930 гадах. У гэтым перыядзе быў ён старшынёй Інстытута беларускай культуры, прэзідэнтам Беларускай акадэміі навук, прафесарам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Быў аўтарам больш за 30 навуковых прац па гісторыі Беларусі. Хаця выказваўся за сацыялістычны парадак на Беларусі, у сваіх навуковых працах прапагандаваў багатую беларускую нацыянальную традыцыю ў мінулых стагоддзях. Даказваў, што Беларусь заўсёды траціла сваю гоеснасць у выніку нахабства расейскага ці польскага імперыялізму.

На пачатку трыццатых гадоў камуністы пачалі ліквідацыю ўсіх элементаў нацыянальнай адметнасці Беларусі. У першую чаргу вырашылі паконччыць з беларускай інтэлігенцыяй. Ігнатоўскага ў 1931 годзе выкінулі з партыі як кулацкага агента. Пасля доўгіх допытаў у органах бяспекі не вытрымаў ён здзекаў і паконччыў самагубствам. Яго двух сыноў Юрыя і Валянціна бальшавікі расстралялі, жонку саслалі ў канцлагер.

# Францішак Скарына,
## альбо *Як да нас прыйшла кніга*

*(працяг: пачатак у 47 нумары)*

**Кніга-скрутак**

Даўнейшыя папірусныя кнігі падобныя не да нашых сённяшніх, а да геаграфічных картаў, скручаных у трубку. Дарэчы, на продаж папірус таксама ішоў у вялікіх сувоях, а не ў аркушах. Найбольш цаніўся папірус ясных гатункаў — жаўтавы або зусім белы.

Скруткі на кнігі былі звычайна каля дзесяці метраў. Чаму — каб чытач, беручы кнігу, мог у адной руцэ трымаць скрутак, а другою раскручваць яго. У адным такім скрутку можна было запісаць прыкладна тысячу нашых радкоў. А каб запісаць, скажам, вялікія паэмы старажытнасці — „Іліяду" ці „Адысею" Гамера, — на кожную трэба было каля дзесятка скруткаў.

Грэкі такі запісаны скрутак-папірус называлі томам (што на іх мове азначала „частка"). Ад іх слова „том" перайшло і да нас.

Папіруснаму скрутку наша сённяшняя кніга абавязана тым, што там упершыню была вынайдзена старонка. На ўсіх іншых матэрыялах, скажам, на розных таблічках ці паверхнях камянёў, радкі ішлі ад краю да краю, і калі атрымлівалася наша старонка, то выпадкова. Яна паходзіла ад памеру самога матэрыялу.

Папірус жа даваў магчымасць пісаць уздоўж скрутка і мець радкі з дзесятак метраў даўжынёю. Аднак так людзі не пісалі. Бо з кожным радком як пры пісьме, так і пры чытанні трэба было б раскручваць і скручваць сувой.

У старажытнасці людзі заўсёды чыталі ўголас. Нават шмат пазней, ужо ў пачатку сярэдневякоўя, чалавек, які чытаў моўчкі, „вачыма", не варушачы губамі, быў дзівам для многіх.

Відаць, таму і не асабліва замінала старажытным егіпцянам ці грэкам тое, што на пісьме тады не аддзяляліся слова ад слова, а пісаліся суцэльныя радкі.

Возьмем запісаныя гэткім чынам радкі з верша Максіма Багдановіча: „Панадбелымпухамвішняўбыццамсініаганёкб'еццаўеццашпаркілёгкісінякрылыматылёк". І вы адчуваеце, што зрабілася амаль непісьменныя.

А як намнога лягчэй чытаецца тое самае, але запісанае са словападзелам і знакамі прыпынку:

Па-над белым пухам вішняў,
быццам сіні аганёк,
б'еецца, ўецца шпаркі, лёгкі
сінякрылы матылёк.

У старажытных рукапісах калі і сустракаюцца прамежкі, то як знарок пасярод слова. Але пры чытанні ўголас слова ўсё роўна складвалася ў гучанні, а таму такое суцэльнае напісанне з выпадковымі прамежкамі ў сярэдзіне радкоў не „муляла" воку.

І ўсё ж арыентавацца ў такім суцэльным рукапісе было цяжкавата. Таму ў пачатку раздзелу або поўных частак першыя літары — ініцыялы — размалёўвалі чырвоным колерам, каб яны кідаліся ў вочы. Гэтак рабілі пасля і іншыя народы, так даўней пісалі і ў нас. Адсюль і пайшоў выраз: „пісаць з чырвонага радка", гэта значыць, пачынаць з новага радка.

***(працяг будзе)***

**Анатоль Клышка**

# Конкурс, конкурс, конкурс

*(літаратурныя гульні н-р 48)*

Адкажыце на пытанні. Адказы на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Аўтары прынамсі трох правільных адказаў могуць выйграць беларускія кніжкі. У конкурсе могуць прымаць удзел і старэйшыя чытачы „Нівы". Пажадана адзначыць свой узрост.

1. Які беларускі пісьменнік неаднаразова ўдзельнічаў у рабоце Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый?
2. З якім зверам дружыў Уладзімір Караткевіч?
3. Хто з'яўляецца аўтарам верша пра Бельск
„ікона
лістападаўскі снег
блакітны ранак"
4. Назавіце аўтара малітвы „Магутны Божа".
5. Як думаеце — чаму беларускія літаратары часта карыстаюцца псеўданімамі? Кожны, лагічна абгрунтаваны адказ, будзе лічыцца правільным.

**Адказ на літаратурны конкурс н-р 4:**

1. Аповесць „Ладдзя Роспачы" напісаў **Уладзімір Караткевіч**.
2. Дзяцінства і юнацтва **Якуба Коласа** прайшло ў сям'і лесніка.
3. Матывы „Пагоні" вельмі часта выступаюць у беларускай літаратуры. Найчасцей сустракаем іх у паэзіі, напр. у вершах „Пагоня" Максіма Багдановіча, „Прыпынкі" Сержука Сокалава-Воюша, ці ў друкаванай у „Зорцы" „Пагоні" Артура Вольскага.
4. У ліпені г.г. у ЗША памерла беларуская паэтка **Наталля Арсеннева**.
5. Другі зборнік творчасці ўдзельнікаў II Літаратурнага конкурсу паэзіі і прозы завецца **„Плыву морам майго жыцця"**.

На жаль, правільныя адказы не паступілі.

# Да ўвагі ўзнагароджаных

Напамінаем, што ў рэдакцыі „Нівы" чакаюць узнагароды з перыяду канікул і школьнага года. Нагадваем, што можна іх атрымаць у рэдакцыі або чакаць у сваёй школе. У апошнім выпадку даручэнне ўзнагароды можа зацягнуцца.

Зараз прыгадваем прозвішчы ўладальнікаў узнагарод: **Ежы Тамчук і Давід Галоўскі** — ПШ у Орлі; **Марыля Тапалеўская** — ПШ у Кленіках; **Юліта Харытанюк** — ПШ у Старым Корніне; **Аліна Анапюк** — ПШ у Ласінцы; **Адам Ярмоцік, Эва Кот, Эва Ярмоцік, Дарота Харкевіч** — ПШ у Дубінах; **Юліта Лаеўская з Гайнаўкі; Сава Астапчук, Грышка Цітко** — ПШ у Гарадку; **Рэната Харытанюк, Адам Янюк, Марцін Мялешка** — ПШ у Новым Корніне; **Эва Ахрымюк** з Падбаравіскаў; **Дарак Екацярынчык, Славамір Калнаўс** — ПШ у Кнарыдах, **Агнешка Федарчук** — ПШ у Арэшкаве.

# Крыжаванкі № 49

**Польска-беларуская крыжаванка** ☞

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Echo | Era | Dama / Chór | ▼ |
| ▶ | ▼ | ▼ | |
| Cygan ▶ | | | |
| Maruda | | | |
| ▶ | | | |

**Крыжаванка Ані Крук** *(на здымку* ☜*)*

- вядомы беларускі паэт — Янка ...
- імяніннік ад 19 снежня (па праваслаўным календары)
- ападае з дрэў... жоўтае, чырвонае
- зранку сцелецца над зямлёй
- ядомы грыб
- можна пад ім спакойна перачакаць дождж
- халодная пара года
- з датай на сцяне

**Адказ на крыжаванку н-р 45**: крама, асёл, крывасмок, рынак, лоб, долар, табака, крот, ар, рыба, млын, вада, бачок, сала, сумка, Ра, лекар.

Узнагароды **каляровыя аўтаручкі (cienkopisy)** выйгралі: **Каміля Каролька** з ПШ у Нарве, **Марцін Мялешка** з ПШ у Новым Корніне, **Гжэсь Матэнька і Павел Белаказовіч** з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

**Аўтаручкі маркі Pilot Fastrak Fine** выйгралі: **Анна Крук** з ПШ у Новым Корніне, **Дарак Баена**, **Міхал Калужынскі** з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім і **Ірынай Абрамюк** з ПШ у Нарве.

Віншуем!



*Аня і Андрэй Крукі з Катоўкі — вучні ПШ у Новым Корніне, верныя чытачы „Зоркі".*



**Талон „Зоркі" № 49 07.12.1997**

# Глёбусавы койданаўцы

На кнігу прозы Адама Глёбуса (Уладзіміра Адамчыка) *Койданава** складаецца адзінаццаць невялікіх апавяданняў і навелаў, якія датычаць жыхароў роднага мястэчка пісьменніка. Праз іхнія лёсы адлюстроўваецца вобраз і атмасфера ціхага местачковага жыцця. Трэба аднак тут адразу ўдакладніць, што вобраз гэты такі, які выкрышталізаваўся ў хлапечых гадах пісьменніка. На Койданава і яго жыхароў мы глядзім менавіта вачамі хлопца ды праз прызму ўспамінаў цяперашняга пісьменніка пра той час. Вось, у Койданаве ўсе вырошчвалі памідоры. Але ў Шавуры („Вінак”) — памідоры былі незвычайнай урадлівасці. Вялікшых, прыгажэйшых і смачнейшых у нікога проста не знойдзеш. Адны падазравалі яго, што агародам ён займаецца, каб замаскаваць прыхаванае там золата, іншыя думалі, што яго стрыечны брат — высокі партыйны функцыянер — прывозіць яму спецыяльныя амерыканскія ўгнаенні, каб памідоры такія ўдаваліся. Мабыць, нехта іншы падазраваў Шавуру і ў вядзьмарстве. А вось, Тоня — усё сваё жыццё хварэла. Але як хварэла — па-жаночаму, па-майстэрску. Галава ў яе кружыла, усярэдзіне ныла, не магла (ах, Божачкі) ўстаяць, млела... Лекараў яна зведала безліч і дажыла ста пяці гадоў, і яшчэ жыве! У завяршальным апавяданні („Ядзя”) пісьменнік згадвае лёсы сваёй сям'і ды вызначае сваё сярод койданаўцаў месца (у ім жа рассакрэчваецца і псеўданім пісьменніка).

У „Пасляслоўі” рэдактар кнігі, Сяргей Дубавец, падводзіць, што пісьменнік зафіксаваў у зборніку можа і нязначныя здарэнні, але затое такія, якія маглі б быць характэрнымі для любога мястэчка. А, значыць, мінулае і ўспаміны пра яго, якіх непазбежна сцірае час, ператварыліся ў перыядычнае, якое будзе жыць за кожным разам, калі нехта возьме ў рукі кніжыцу. Можна б дадаць, што койданаўцы, пэўна ж, жывуць і сваім цяперашне-рэальным жыццём, але пісьменніку залежала, каб сфатаграфаваць мястэчка такім, якім ён яго ведаў.

**Аляксандр Максімюк**

* Адам Глёбус, *Койданава*, „Літаратура”, Менск 1997.

# „The Dvery”

— Хочам паказаць, што беларускасць — гэта не толькі балалайка і бабуля ў хустцы, але і музыка для моладзі, — заяўляе Кася Дробат, вакалістка гурту „The Dvery”. — Спяваем выключна па-беларуску і толькі так будзем запісваць касету.

Гурт „The Dvery” паўстаў у 1995 годзе ў Гайнаўцы. Яго стварылі Мар'юш Гарустовіч (вядучая гітара), Марк Дробат (басавая гітара) і Андрэй Плева (перкусія), а год пазней далучылася да іх вакалістка Кася Дробат. Выступалі ўжо два разы на „Басовішчы”, сёлета на „Бардаўскай восені”, а таксама ігралі на розных канцэртах у Гайнаўцы ці Бельску-Падляшскім. Аднак, як на так малады гурт, поспехі ў іх вялікія. Два разы на сёлетнім „Басовішчы” і „Бардаўскай восені” атрымалі ўзнагароды Радыё Беласток і магчымасць запісу дзвюх касет у студыі.

— Кожная ўзнагарода Радыё Беласток — гэта па дваццаць гадзін працы ў студыі. Мы вырашылі, што лепш запішам адну касету добра, чым будзем разбіваць працу, — кажа Кася, вучаніца IV класа Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. — Будзем запісваць такую музыку, як ігралі на „Басовішчы” і „Бардаўскай восені”, ад „панка” ці „рока” да аўтарскай песні.

Словы песень гурту звязаны з класікай беларускай паэзіі. Найчасцей сустракаюцца рыфмаваныя вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, а стандартным іх творам — фрагмент „Новай зямлі”.

— „Мой родны кут” — гэта не толькі класіка, але і тое, што нам вельмі блізкае. Словы паказваюць нашу прывязанасць да родных вёсак, з якіх выводзяцца нашы бацькі, а дзе пражываюць нашы бабулі, — паясняе Кася.

— Маладыя слухачы думаюць, што многія тэксты не маюць для вас большага значэння, паколькі ваенны патрыятызм не вельмі ўспрымаецца моладдзю, — кажу Касі.

— Калі мы спяваем песні на вершы Янкі Купалы, мы не задумваемся над ваеннымі падзеямі, але над актуальнымі нацыянальнымі праблемамі. Нават у нашым ліцэі здараецца, што вучні насміхаюцца над беларускай мовай ці свядомасцю, — сцвярджае вакалістка. — Калі я спяваю, я думаю тады каб не здавацца, а змагацца рознымі спосабамі за беларускасць. Не ведаю, чаму іншыя думаюць, што беларуская мова горшая за польскую.

Рэпетыцыі гурту летам адбываюцца ў гаражы, а зімой у доме Мар'юша Гарустовіча, які найчасцей апрацоўвае музыку да новых песень.

Пытаюся пра ўражанні і планы на будучыню.

— Мы не рыхтуемся толькі да выступленняў на канцэртах, але сустракаемся, каб пайграць тое, што любім, — гаворыць Кася. — Не заўсёды ёсць час, бо мой брат Марк — студэнт Політэхнічнага інстытута ў Варшаве, Андрэй — Політэхнічнага інстытута ў Беластоку, а Мар'юш працуе ў Бельску-Падляшскім і вучыцца. Я кожны кантакт з музыкай успрымаю вельмі цёпла. Думаю ісці вучыцца на вакалістыку ў Музычнай акадэміі ў Варшаве.

— Тое, што ігралі на „Бардаўскай восені” — гэта найбольш спакойная музыка, якую можам зайграць, — гаворыць Мар'юш. — Аднак лепш адчуваем сябе з мацнейшай музыкай.

— Назва гурту „The Dvery” не звязана з канкрэтнымі здарэннямі ці асобамі, — тлумачыць вакалістка. — Проста так прыдумалі і засталося. Што тычыцца будучыні, дык будзем іграць і думаем яшчэ выступаць.

Застаецца нам толькі чакаць касеты гурту „The Dvery”.

**Аляксей Мароз**

# Багамаз

Колькі ўжо творцаў брала на варштат гісторыю Ільі Клімовіча, прарока, а ўсё знаходзяцца новыя. Надоечы ў беластокім кіно „Тон” можна было паглядзець мастацкі фільм Кшыштафа Вайцяхоўскага „Гісторыя аб прароку Ільі Вершалінскім”, ды пагутарыць з рэжысёрам.

Фабула кінакарціны кволенькая, нягледзячы на тое, што працавалі над сцэнарыем ажно тры майстры — Мар'ян Пілёт, Эрнест Брыль і рэжысёр. Аднаму селяніну памірае адзіны сын, што мацуе гэтага селяніна ў атэізме, якога набраўся падчас бежанства ў Расеі. Мацуюць яго і мясцовыя камуністы, шчодра поячы селяніна гарэлкай. Жонка селяніна, якая лічыцца бясплоднай, ідзе да Ільі, прарока, ды нейкім цудам зацяжарвае. Муж, які следам за жонкай прывалокся ў Вершалін, хоча забіць Ілью (слушна падазраючы, што жонка зацяжарыла менавіта з прычыны прарока). Цкуюць мужа на прарока і камуністы, поячы гарэлкай. Усё ж такі селянін Ілью не забівае, а толькі становіцца ягоным таварышам. На канец уваходзяць саветы, селянін вязе кудысьці Ілью, пераймаюць іх мясцовыя камуністы і забіраюць прарока. Гэта мае быць, паводле рэжысёра, гісторыя Юды, хаця я так і не зразумеў, чаму менавіта яго.

Уся карціна — гэта нейкая „цэпэлія”, у чым прызнаўся сам аўтар. Ягоная „цэпэліяда” перасягнула ўсе меры прыстойнасці. Беларускія сяляне адзетыя ў строі, якіх тут ніхто ніколі і не бачыў, пяюць украінскія песні (у выкананні вядомага хору „Жураўлі”) з нейкім прыдняпроўскім напевам. Мясцовую моўную спецыфіку акторы стараюцца перадаць шляхам „следзікавання”. Тое самае было б, калі б нейкі немец рабіў фільм пра сілезцаў і загадаў ім гаварыць на нейкім нямецкім жаргоне, спяваць чэшскія песні і толькі па-польску не было б у фільме ні слова. Калі мужыкоў Вайцяхоўскі паказаў як з „цэпеліі”, дык камуністаў — як з комікса, у паэтыцы гайнаўскага бара „У Валодзі”, поўнага памятак па скрышэлай імперыі.

Розныя людзі займаліся дагэтуль „грыбоўшчынай”. Нашаму гледачу асабліва запамятаўся Тадэвуш Слабадзянак, які залішне прыбаўляў „прафанум” да „сакрум”.

Вайцяхоўскі свой фільм рабіў „на каленях”. Паводле яго, усе жыхары Усходняй сцяны чакаюць цудоўнага вяртання прарока Ільі, хаця самі перад сабою да гэтага не прызнаюцца, а Ілья будзе прызнаны святым Праваслаўнай царквою.

Які „опус” можа стварыць чалавек з такімі ведамі? Адно „кіч”. Ілья Слабадзянка выклікаў абурэнне, Ілья Вайцяхоўскага — толькі смех. Я глядзеў гэты фільм у кампаніі некалькіх беларусаў. Смяяліся мы безупынна, стараліся паўстрымацца (бо не выпадае) і зноў выбухалі смехам, да слёз.

Багамазамі называлі калісьці кірмашовых пісцоў іконаў, якія „мазалі багоў”. Усё ж такі яны, хаця і няўмела, пісалі іконы сапраўдных святых. Вайцяхоўскі стварыў карціну ў гонар фальшывага бога. Ягонае ідалапаклонніцтва абышлося падаткаплацельшчыку, як сам сказаў, вельмі танна — усяго ў мільярдаў восем старых злотых. Два гадавыя бюджэты беларускай культуры ў Польшчы.

**Алег Латышонак**

# Страж нацыянальнай памяці

Беларускім літаратурным рухам у Польшчы зацікавіліся ў апошніх гадах польскія даследчыкі прыгожага пісьменства, вынікам чаго сталі кніжныя выданні і артыкулы ў літаратуразнаўчай перыёдыцы. Многа ўвагі гэтай праблеме адводзіць доктар Тэрэса Занеўска з Універсітэта ў Беластоку, аўтарка зборніка нарысаў па беларускамоўнай паэзіі ў Польшчы (*Podróż daremna*, Białystok 1992) і кнігі пра польска-беларускія літаратурныя сувязі (*A dusza jest na Wschodzie*, Białystok 1993). І вось на днях выйшла з друку трэцяя кніга гэтай аўтаркі, прысвечаная беларускай паэзіі ў Польшчы пасля 1956 года*. Як адну з прычын напісання гэтай кніжкі аўтарка падае адсутнасць доследаў над шырэйшым фонам беларускай паэзіі ў Польшчы і яго грамадскім і літаратурным кантэкстам. Менавіта гэтыя пытанні разглядае даследчыца на прыкладзе паэтычнай творчасці Надзеі Артымовіч, Алеся Барскага, Яна Чыквіна, Уладзіміра Гайдука, Міхася Шаховіча і Віктара Шведа.

У першым з трох раздзелаў аўтарка малюе калектыўны партрэт Літаратурнага аб'яднання „Белавежа”, пачынаючы з моманту заснавання гэтага пісьменніцкага згуртавання і характарызуючы паасобныя перыяды яго развіцця. Другі раздзел прысвечаны аналізу матываў, сімвалаў і міфаў у творчасці „белавежцаў”. Аўтарка заўважае, што паэты прадстаўляюць сваю „малую айчыну” з этнаграфічнай дакладнасцю, рэгіструючы рэальныя здарэнні, апісваючы паводзіны, заносячы іх у кола міфічных уяўленняў, намагаючыся ўнікнуць у спосаб думання суграмадзян і засвоіць іхнюю сістэму каштоўнасцей. Найбольш характэрнымі элементамі паэтычнага свету „белавежцаў” з'яўляюцца прасторавыя катэгорыі дому, агарода і ваколіцы дзяцінства, матывы дарогі і вандроўніка, магія і міфы. І хаця на першы погляд магло б здавацца, што іхняя творчасць сталася ізаляванай і адарванай ад гістарычна-літаратурнага кантэксту, аўтарка, аднак, заўважае сувязь паэзіі „белавежцаў” з сучаснай ім артыстычнай тэматыкай, а таксама з літаратурнай традыцыяй. Гэтай тэме прысвечаны апошні, трэці, раздзел, у якім творчасць беларускіх паэтаў разглядаецца на фоне польскай і беларускай літаратур. „На працягу сарака гадоў, — сцвярджае даследчыца, — лірыка „белавежцаў” падвяргаецца разам з польскай паэзіяй супольным правілам, і чатыры дзесяцігоддзі з'яўляецца таксама чыстай крыніцай паэтычнага вопыту для сучаснай беларускай паэзіі...” На яе думку, паэты Літаб'яднання „Белавежа” і іх артыстычныя здабыткі — гэта арыгінальны літаратурна-культурны факт па прычыне месца і ўмоў, у якіх заіснавалі яны як група і як стваральнікі багатай літаратуры сумежжа, у якой сустракаюцца Усход з Захадам.

Навейшая кніга Тэрэсы Занеўскай аб беларускіх паэтах у Польшчы, якіх называе яна верным і пільным стражам памяці існавання нацыі, з'явілася якраз на парозе юбілейнага 1998 года, калі Літаб'яднанне „Белавежа” адзначаць будзе саракагоддзе свайго існавання. Прыгожы і каштоўны падарунак атрымалі нашы майстры роднага слова.

**Віталь Луба**

*Teresa Zaniewska, *Strażnicy pamięci. Poezja białoruska w Polsce po roku 1956*, Wydawnictwo Uniwersyteckie „Trans Humana”. Białystok 1997, ss. 246.

# Сам не ам і нікому не дам

Яўген БЯЛЬКЕВІЧ

Адбывалася Гэтае ў канцы кастрычніка і ўжо напэўна была восень. Аб ёй напаміналі і голыя дрэвы, і халаднаваты вецер са сцёбаючым твары дожджыкам, і хуткае змярканне.(І ці патрэбны лепшы сцэнарый для мерапрыемства, якое ў сваёй назве мае слова „восень"?) Ужо неяк сама прырода падрыхтоўвала будучага слухача да падзеі гэтага вечара, а яшчэ і прадказвала яго непаўторны клімат. А шалясцеўшае пад нагамі лісце быццам бы нават запрашала пабываць Там — хаця раз у год бліжэй пасябраваць з аўтарскай песняй і перажыць яе, больш або менш рэфлексіўны змест.

І ці патрэбны...

* * *

Прыцягнула Гэтае асабліва маладых, хаця старэйшыя людзі таксама прыйшлі. Многія стаялі яшчэ перад вялікай залай, пакурвалі і гутарылі. Процьма людзей была і ўсярэдзіне. Яны там ужо сядзелі — хто на мяккіх, а хто на цвёрдых крэслах. Тут трэба паясніць, што мяккія з'яўляюцца пастаянным абсталяваннем залы і іх намнога больш, чым цвёрдых, дадатковых. А гэтыя апошнія стаяць ззаду (нат нелагічнай была б адваротная сітуацыя). Так што большасць слухачоў сядзела на гэтых мяккіх і яны былі занятыя амаль усе. Словам — магчымасці выбару месца для слухання значна завужаліся, а нават іх зусім не было. Трэба было сядаць хутчэй там, дзе стаялі яшчэ свабодныя, няхай сабе і цвёрдыя. Ці горшыя? Неабавязкова. Вельмі часта зусім па-другому — цвёрдасць, у многіх выпадках бывае больш пажаданай ад мяккасці. А іхняя заднясць пакуль што не выдавалася нам крышку падазронай. Дарэчы, не было калі над такімі дробязямі задумвацца, а выпадала толькі цешыцца сваім, сядзячым месцам. Тыя, якія прыйшлі пасля, былі ў намнога горшай сітуацыі — яны стаялі.

А на гэтых цвёрдых і далей сядзелі розныя людзі, але перавага, так як і ў цэласці была на баку маладых. Некаторыя з іх (што высветлілася пазней) занялі менш выгадныя месцы невыпадкова. Яны маглі сесці недзе спераду, на больш выгадных, бо мяккіх, але, здаецца, іх узрост прымушаў сядаць заўсёды ззаду. Вядома, маладыя, то і любяць нешта сказаць, пасмяяцца, ці нават падшчыпнуць некага. Яны, у адрозненні ад тых, якія хацелі засярودзіцца толькі на слуханні, пакідалі яшчэ фортачку для нечага другога. Аднак, усе былі шчаслівыя. І менш важнае, што адных ашчаслівіла ўдвая, другіх яшчэ больш, а ў трэціх была толькі адна радасць — слуханне. Усе, ці то на мяккіх, ці на цвёрдых, ці на г.зв. стаячых месцах, Гэтага чакалі круглы год. І дачакаліся. І хаця некаторым напэўна хтосьці падказаў, што Яно адбудзецца восень, сёння, дык яны ўсё ж такі ўспелі.

І ўрэшце — пачалося. Там на сцэне, і тут, сярод публікі. Невядома, як нападзе і ў мяккіх крэслах, але на цвёрдых пачалося несумненна. Седзячыя тут слухачы толькі цяпер сцямілі, што яны наканаваны асаблівым шчасцем. Яны акцёраў мелі не толькі перад сабою, але і ззаду, і з боку, а нават зусім блізка — па-суседску. Былі гэта маладыя людзі, хіба ліцэісты. Іх выступленні, спачатку крыху нясмелыя (быццам бы яны не былі ўпэўнены ці на адпаведны тып імпрэзы папалі), пачалі з часам магутнець і ўзмацняцца. І калі яшчэ нядаўна можна было адрозніць галоўных герояў вечара ад тых, што хацелі такімі стаць сілком, дык праз нейкі момант прыгожая музыка і такія ж спевы гэтых першых патанулі. Патанулі ў моры дыялогаў і маналогаў, на не заўсёды спеўнай, чужой крыху мове другіх. Яны час ад часу прыціхалі. Мо меў на гэта нейкі ўплыў той, хто на сцэне, а мо толькі яны падбіралі новыя тэмы і сюжэты на разгляд найбліжэйшага наваколля. Вядома, што не ўсе суседзі, нат не ўсе іх сябры хацелі іх слухаць. Гэтакіх было вельмі лёгка пазнаць, яны моршчылі лоб, прыплюшчвалі вочы, зацiскалі кулакі выцягваючы шыі і г.д. Словам рабілі ўсё, каб неяк выключыцца (а можа ўключыцца), узляцець і перасяліцца са сваімі цвёрдымі і заднімі крэсламі недзе ўперад. Часам ім гэтае ўдавалася. Асабліва тады, калі музыка і словы са сцэны гучалі болей галасіста і вастрэй. Аднак за такія лічаныя хвіліны шчасця яны вымушаны былі плаціць цану страшэнную. Заднія акцёры, вядома, абураліся за такія паводзіны (яны вельмі не любяць, калі ім нехта перашкаджае) і выклікала гэтае ў іх рэакцыю ўзмацнення сваіх „напеваў". Яны не былі ў змозе зразумець, што іхнія дасягненні, у самых розных дзялянках, могуць быць некаму абыякавымі. А ўжо зусім не маглі паверыць у існаванне людзей, якія сумняваюцца ў абавязковай іх прысутнасці тут. За такі недавер і незразуменне сапраўдныя слухачы атрымалі дадатковае пакаранне ў выглядзе гульні, якую можна б назваць „Туды-сюды". А яе сутнасць заключалася ў тым, што маладыя людзі пачыналі шпацыраваць. Яны пакідалі залу чародамі, паркамі, па пяць, дзесяць асоб. Зрэдку рабілі гэта ў адзіночку. Прытым намагаліся зрабіць як найбольш шуму. І ўвесь час размаўлялі. Выходзілі яны не спяшаючыся, хацелі, відаць, каб кожны меў магчымасць на іх паглядзець. Тыя, якія пачалі гульню як першыя зараз жа вярталіся, а ра-

[працяг ☞ 10]

# І дзеці ўнеслі свой уклад

Праваслаўны асяродак міласэрнасці „Элеос" наладзіў у нядзелю 23 лістапада ў Беластоцкай філармоніі дабрачынны канцэрт. Было ўжо гэта трэцяе такое культурнае мерапрыемства, якое папулярызуе асяродак і дае сродкі на яго дзейнасць.

Праваслаўны асяродак міласэрнасці быў створаны ў чэрвені 1996 года дэкрэтам архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы. Працягвае ён доўгую традыцыю і карыстацца дасведчанасцю Праваслаўнай царквы ў дабрачыннай дзейнасці сярод патрабуючых і пакрыўджаных лёсам.

„Элеос" дапамагае бедным, дзецям з разбітых сем'яў, з дзіцячых дамоў, асобам старэйшым і хворым, уцекачам і эмігрантам, ахвярам катастроф і стыхійных бедстваў. Рыхтуе сацыяльных працаўнікоў. Сярод асоб, якім памагае, вядзе рэлігійную адукацыю, стараецца ўкараніць братэрскія адносіны між людзьмі. Яго дапамогаю могуць карыстацца ўсе патрабуючыя, незалежна ад веравызнання, нацыянальнасці, узросту ці іншых крытэрыяў.

Восенню і зімою ў сядзібе асяродка бясплатна кормяць каля пяцідзесяці чалавек. Ахвяроўваюць таксама ўжываную вопратку ды, па сіле магчымасцяў, прадукты і лякарствы. Дапамагаюць бедным сем'ям у хатняй гаспадарцы, купляюць дзецям абеды ў школах, аплачваюць рахункі за электрычную энергію. Апякуюцца выхаванцамі дзіцячых дамоў у Беластоку і Супраслі, арганізуюць ім сустрэчы, экскурсіі, паломніцтвы на Святую Гару Грабарку і ў Заблудаў. У час летніх і зімовых канікулаў ладзяць праваслаўным дзецям лагеры адпачынку.

Нядзельны канцэрт складаўся з двух частак. У першай з духоўнымі творамі выступілі маладзёжныя хоры сабора св. Мікалая і прыхода Агія Сафія з Беластока ды хор Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага. У другой запрэзентаваліся дзеткі з польска-беларускага дзіцячага садка ў Беластоку ды фальклорныя калектывы „Маланка" з Бельска і „Чарамшына" з Чаромхі.

— Усе пераважна арганізуюць аднародныя канцэрты, — сказала Марта Врублеўская з Праваслаўнага асяродка міласэрнасці. — Мы хацелі, каб было крыху інакш. Таму ў адзін вечар пасля царкоўнай музыкі прагучала народная беларуская. Наш такі эксперымент поўнасцю апраўдаўся, аб чым сведчаць загадзя прададзеныя білеты (трэба было дастаўляць крэслы) і рэакцыя публікі ў зале.

З асабліва цёплым прыёмам спатkaліся беластоцкія дашкольнікі, якія супольна з бацькамі і настаўнікамі паставілі спектакль „Беларускае вяселле". Маладыя акцёры настолькі прыгожа, натуральна ігралі свае ролі (старэйшыя таксама!), што ў зале раз-пораз узнімалася бура воплескаў. А яны і спявалі, і танцавалі, і паказвалі, як калісьці выпраўлялі маладую пару да шлюбу, як бацькі блаславілі і загадвалі ўсё жыццё пражыць па-божаму. Паказвалі не толькі багацце беларускай абраднасці, але і тое, што жывучы ў горадзе, сярод польскай большасці, можна гэтае багацце зберагчы і можна гаварыць на роднай мове.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

*Фота Сяргея ГРЫНЯВІЦКАГА*



# Ахвотна вучацца роднай мове

**Падставовая школа ў Орлі змяшчаецца ў самым вялікім будынку ў гміне. Вучыцца ў ёй 194 дзяцей, з ліку якіх 98 добраахвотна наведваюць урокі беларускай мовы. У школе дзеці выпісваюць „Ніву".**



У лістападзе я некалькі разоў наведаў арлянскую школу. Унутры будынак зіхаціць чысцінёй. Сочаць за ёй прыбіральшчыцы, якія ўвіхаюцца па доўгіх калідорах. З боку школы будуецца аграмадная спартыўная пляцоўка.

Другакласнікі (на здымку з выхавацелькай), якія з пачаткам новага школьнага года пачалі вывучаць родную мову, сустрэлі мяне радасна і заявілі, што хочуць сябраваць з „Нівай" і „Зоркай" ды запрашалі часцей іх наведваць.

Настаўніца **Яўгенія ТХАРЭЎСКАЯ**, выхавацелька II класа, сказала:

— З малодшымі класамі займаюся ўжо многа гадоў. Сёлета вяду ўсе заняткі ў другім класе, у тым ліку тры гадзіны беларускай мовы ў тыдзень. У класе вучыцца 17 дзяцей (6 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак) з Орлі, Кашалёў, Міклашоў і па адным з Рудутаў, Шчытоў і Крывятыч. Трынаццаць дзетак ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Пад канец першага класа правяла я размовы з бацькамі і тады думала, што будзе больш ахвотных вывучаць родную мову. Аднак я не здаюся і цяпер таксама намагаюся заахвочваць іх усялякімі спосабамі.

Дзеці зараз вывучаюць беларускі алфавіт. Развучваем яшчэ вершыкі і чытаем казкі. Стараюся займальна весці ўрокі, бо ж гэта малыя дзеці і з цяжкасцю ім прыходзіцца засяродзіць даўжэйшы час увагу на адным занятку. Дзеці прыходзяць добра падрыхтаваныя да ўрокаў. Часам бывае, што бацькі надта многа дапамагаюць, што перашкаджае малюткам стаць больш самастойнымі.

Дзеці ўжо пачынаюць знаёміцца з „Зоркай" і калі навучацца добра пісаць, напэўна будуць дасылаць допісы ў сваю беларускую газетку. Мяркую, што „Зорцы" прыбудуць новыя карэспандэнты, бо мае выхаванцы вельмі ахвотна вучацца роднай мове.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота аўтара*

Адгалоскі

# Памірыцца запрашаю

У „Ніве" № 47 ад 23 лістапада г.г. прачытаў я допіс Міхася Куптэля „У чым заключаецца пазітывіцская праца" і падумаў, што выказаў ён амаль усю праўду. Мала калі ў нас на старонках „Нівы" паказваюцца артыкулы з меркаваннямі Вапы, Чыквіна ці Сычэўскага, хаця ўсе яны з'яўляюцца лідэрамі беларускіх арганізацый.

Ну а калі ўжо гаворка аба мне, то я сапраўды на сход усіх лідэраў адпускаю сваю хату, а калі яны пачнуць моцна спрачацца, то буду іх суцішаць і даводзіць да згоды.

Круглую мэблю то я яшчэ не рабіў, але, думаю, за чатырохкутным сталом не будзе ім цесна. Хацеў бы я толькі, каб лідэры паведамілі мяне хаця на дзве нядзелі раней. А тут ужо пачаўся снежань, а я яшчэ нічога канкрэтнага не ведаю.

Думаю, што апошнія выбары добра правучылі нашых лідэраў. Калі яны не аб'днаюцца, дык няхай да другіх выбараў і не рыхтуюцца.

Яшчэ раз заклікаю ўсіх лідэраў адгукнуцца на маю прапанову на старонках „Нівы", каб праваслаўнае насельніцтва ведала ці вы аб'ядаецеся, ці будзеце між сабою далей калаціцца.

Праўду сказаў Міхась Куптэль, што ўсё колішняе прапала. Я помню, як у сямідзесятых гадах на першы дзень нашых Каляд Міхась Хмялеўскі з сябрамі не мог дабрацца да мяне на легкавой машыне і пяшком ішоў 4 кіламетры, каб сфатаграфаваць каляднікаў. Мой бацька адвозіў іх потым санямі ў Трасцянку. Таксама Васіль Дзун з Гайнаўкі пяшком хадзіў па вёсках і арганізаваў гурткі БГКТ, а пазней Вера Валкавыцкая і Яніна Чэрнякевіч хадзілі па вёсках, каб правесці сходы ў гэтых гуртках.

Калі я моцна кагось закрануў, перапрашаю, а памірыцца шчыра запрашаю!

**Мікалай Лук'янюк**

# Пячнік Вася

**Людзі разабралі печы ды парабілі цэнтральнае ацяпленне і газавыя пліты. Але калі надыдзе зіма з траскучымі маразамі, нярэдка цяжка выседзець у хаце, калі зуб на зуб не пападае, — гаворыць 54-гадовы Васіль АХРЫЦЭВІЧ, пячнік з Орлі. — Пры цэнтральным ацяпленні трэба абаграваць усю хату, бо інакш трубы палопаюць, а вугаль цяпер дарагі. А як маеш печку, то можна яе тапіць абы-чым і ў двух пакойчыках перазімаваць. Хто так думаў, той і цэнтральнае зрабіў, і печку пакінуў.**

Яшчэ нядаўна кафлярства і прафесія печніка былі пашыраны ў нашым грамадстве. Але ў выніку тэхналагічнага прагрэсу спынілі вытворчасць кафляныя заводы і штораз цяжэй знайсці майстра пячной справы. Васіль Ахрыцэвіч стаў печнікам трыццаць гадоў таму, а навучыўся гэтаму рамяству саматугам, разбіраючы спачатку старую печ у сваім доме. З 1977 года, пасля паспяховa здадзеных прафесійных экзаменаў, працаваў печніком у Прадпрыемстве камунальнай гаспадаркі ў Бельску-Падляшскім. Апрача асноўнага занятку ўмее ён яшчэ мураваць, маляваць тынкаваць і класці глазурную плітку.



— Не так даўно, — расказвае Васіль Ахрыцэвіч, — сустрэў я ў Чыжах даваенныя кафлі з тоўстай палівай, ручной вытворчасці, з арлянскай кафлярні яўрэя Вайштына. Самымі рэдкімі печамі, якія можна яшчэ сустрэць у вёсках, гэта глінабітныя печы з частковай металічнай асновай і дадаткам неабпаленай цэглы. Пазней будавалі печы за звычайнай цэглы змазанай глінай і пабеленай. Апошнім часам такія дзве печы паставіў я ў скансэне ў Белавежы, а потым рамантаў іх пасля пажару. Адна печ памерамі 2 м на 1,8 м мае хлябную печку і ляжанку. Старыя людзі расказваюць, што калісьці на такой печы спалі два браты з жонкамі і адзін аднаму не мяшалі...

Глінянную сцяноўку (грубку), пастаўленую семдзесят гадоў таму, рамантаваў я ў Галадах. У яе дымаход быў такі шырокі, што абняць яго змаглі ажно трое людзей. Каб паставіць сучасную сцяноўку, трэба 130 кафляў сярэдніх, 80 рагавых і 6 штук банды на верх. Самую вялікую сцяноўку з падвойным каласніком паставіў я ў пажарным дэпо ў Орлі. Добры пячнік кухонную пліту ставіць у тры дні (ад світанку да змяркання), а сцяноўку — у два. Цяпер у гарадах ажывае туга па печах у выглядзе кафляных, мармуровых і каменных камінаў, якія ставяць нават у блоках.

На жаль, прафесія печніка прападае. Калі б былі ахвотныя навучыцца гэтаму рамяству, я ахвотна перадаў бы ім свае веды і ўмельства. Мой старэйшы сын Андрэй вучыцца пры мне. Цяпер займаемся галоўным чынам рамонтам старых печаў, часам ставім кухонныя печы і разнастайныя каміны.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Сам не ам і нікому не дам

[9 ☞ *праця*г]

білі гэта ў спосаб падобны да таго, у які выходзілі. Толькі што цяпер яны былі яшчэ больш гаваркія і вясёлыя. Другія, ім падобныя, ішлі за імі ўслед; спярша паказвалі слухачам спіну, а цераз хвіліну — твар. І не пераставалі балбатаць, пшэкаючы. Такім спосабам ахвотныя праслухаць чарговых выканаўцаў не змаглі іх нават добра ўбачыць. А паклоннікі гульні, пекныя дзяўчаткі і модныя хлапчукі, дасягнулі яшчэ аднаго поспеху — адабралі адзіное шчасце і ў гэтых, што слухалі стоячы. Там, асабліва бліжэй дзвярэй, утварылася нешта на ўзор хвалі (але не мексіканскай), якая клубавалася і перасоўвалася ў розныя бакі. Парушылі нават спакой тых, што сядзелі на мяккіх крэслах. Усё гэтае спыніў голас, які абвясціў канец канцэрта.

* * *

У многіх задніх слухачоў яшчэ да сёння б'юцца ў галаве многія заўвагі і запытанні. Асабліва кранальнай з'яўляецца тая, што падзел на тых, якія хацелі слухаць і тых, якія не хацелі, неяк супаў з падзелам на седзячых у мяккіх і ў цвёрдых крэслах. Вядома, за выключэннямі. Не могуць яны таксама пераварыць таго, што некаторыя маладыя людзі здатныя так татальна апляваць і апаганіць усё. І ўсіх. Бо калі ўжо цяпер такі час і ўсе звыкліся з такімі адносінамі да мовы, культуры, не здзіўляе нават ужо такое стаўленне да старэйшых, настаўнікаў, арганізатараў, то прынамсі, хаця крыху, маглі б ушанаваць выканаўцаў і сваіх сяброў. Яны, аднак, не ўшанавалі; сваімі дурнаватымі паводзінамі дапісалі нечаканы зусім сцэнарый да такога цікавага мерапрыемства.

* * *

Як добра, што першага дня канцэртаў не прыехалі яны на два аўтобусы... Як добра, што праз год ізноў „Восень бардаў"... Як добра... будзе сесці ў мяккім крэсле, недзе спераду... Як добра...

Паслухаў, пабачыў і апісаў, не такі ўжо стары і не зусім бязгрэшны (асабліва ў маладосці) —

**Яўген Бялькевіч**

# Вялікая тройка

У Гайнаўцы дзейнічаюць тры вялікія прадпрыемствы, у якіх працуе звыш паўтары тысячы чалавек.

Найбольшым прадпрыемствам з'яўляецца Фэрнэль (Furnel Ltd Sp. z o.o.), які выпускае перш за ўсё ўсялякую мэблю. Тут мае працу каля 1000 асоб. Звыш 50 працэнтаў вытворчасці высылаюць у заходнееўрапейскія дзяржавы.

Другім, не менш важным для Гайнаўкі прадпрыемствам з'яўляецца „Гамэх", у якім працуе звыш трохсот чалавек. Фірма вырабляе сушыльні дрэва і тытуню, а таксама дрэваапрацоўчыя і фрэзерныя станкі. На такога роду абсталяванне ёсць многа пакупнікоў, між іншым, у Сувальскім ваводстве ды ў заходняй частцы Польшчы. На айчынны рынак трапляе 75 працэнтаў вытворчасці, рэшта — на замежны.

Трэцяе прадпрыемства — „Грыфсканд" — дае працу для 240 асоб. Выпускае яно перш за ўсё драўнінны вугаль, між іншым, і такі, які служыць палівам для грыля. Палавіну вытворчасці „Грыфсканда" адпраўляюць у Швецыю, Галандыю, Швейцарыю і ў Рэспубліку Беларусь. Шмат пакупнікоў на вышэйзгаданы вугаль ёсць таксама і ў нашай краіне.

**(яц)**

# Чырвонае неба

Было гэта восенню, у лістападзе 1950 года. Пад вечар неба пачало чырванець, і тая дзіўная з'ява пачала заліваць неба з захаду на поўнач, не даходзячы да ўсходу. Уся паўночная частка неба была як у агні або крыві, і па гэтым незвычайным полі хадзілі ясныя вертыкальныя стаўбы. Такой прыроднай з'явы ніхто нават са старажылаў яшчэ не бачыў. Неба зіхацела так аж да поўначы, а пасля ўсё пачало паступова прападаць. Страшна і жудасна было на гэта глядзець. Мне было тады сем гадоў і я з трывогай слухаў, як людзі гаварылі пра Божую кару і вайну. Жыхары вёскі былі тады малаадукаваныя, у вёсцы не было электрычнасці, мала хто чытаў газеты і на ўсю вёску было толькі некалькі радыёпрыёмнікаў з навушнікамі; не было адкуль даведацца разгадкі гэтай з'явы. На другі дзень пайшоў я да свайго дзеда і гавару яму: „Дыдо, вчора нэбо було чырвонэ як огонь і ходылі паскі..." Дзед адказаў коратка па-руску: „Это было северное сияние"; магчыма, што і была гэта паўночная зара. Майго бацькі тады не было дома — быў ён на рабоце пад Ольштынам. Калі вярнуўся адтуль, дык і ён гаварыў пра той цуд, бо і там яго бачылі. Там да дубіцкіх рабочых прыходзіў адзін украінец, які гаварыў, што ў тым „агні неба" ён бачыў дзядулю-прарока, які ў адной руцэ трымаў бохан хлеба, а ў другой — меч; паводле расказчыка прадвяшчала гэта голад і вайну. Вайна тады была — не ў нас, але ў Карэі — вельмі жорсткая, і амаль не дайшло там да атамнай бамбёжкі. Думаю, што тая з'ява вярнула многім веру ў Бога і навучыла адказнасці перад Ім.

**Мікалай Панфілюк**

У Гайнаўскім доме культуры

# Выстаўка акварэлей і графік

У Гайнаўскім доме культуры па вул. Беластоцкай 2 (у памяшканні н-р 23) адкрылі выстаўку 80 акварэлей, графік і тэмпераў, падрыхтаваных 17 юнымі рысавальнікамі. Аўтары рысункаў — вучні гайнаўскіх сярэдніх агульнаадукацыйных і прафесіянальных школ, члены гуртка юных мастакоў, у тым ліку вядомага ў Гайнаўцы гурту „Дэфармацыя".

У пластычнай майстэрні Дома культуры заняткі вядуць інструктары ГДК ды не толькі. Тут вялі ўрокі для пачаткоўцаў і для тых, якія ўжо маюць поспехі ў жывапісе вядомыя мастакі-прафесіяналы Яўген Давідзюк, Збігнеў Будзынскі і Віктар Кабац — усе яны з Гайнаўкі.

На выстаўцы можна ўбачыць лепшыя рысункі між іншым Эміліі Скепка, Альжбеты Міхноўскай, Монікі Іванюк, Міхала Скепкі, Міраслава Себесюка, Веранікі Вайцяхоўскай, Альжбеты Антанюк, Тамаша Якубюка, Наталлі Саевіч, Дароты Анапюк.

Запрашаем паглядзець вышэйзгаданую выстаўку ўсіх зацікаўленых. А ўжо перш-наперш тых, каму без мастацтва жыццё не жыццё. Усіх заваражаных жывапіссю. Усіх, каму мастацтва ды імкненне да прыгажосці — самы глыбокі сэнс у асабістым жыцці.

**(яц)**

# Нурэцкая дэмаграфія

На тэрыторыі гміны Нурэц-Станцыя знаходзіцца 26 вёсак. Тут зараз пражывае 5 620 чалавек. Найбольшыя сёлы — гэта Нурэц-Станцыя — яна налічвае 1 950 жыхароў, Клюковічы — 332, Вулька-Нурэцкая — 309 ды Сямічохы — 284 жыхары. Лік насельніцтва Нурэцкай гміны падае. Пяць гадоў таму назад зарэгістраваных тут было 6 006 чалавек, а цяпер — 5 620.

Сёлета ў тамашнім ЗАГСе шлюб узяло дваццаць пар. Нарадзілася 42 дзяцей (27 дзяўчынак і 15 хлопчыкаў), ды памерла ажно 65 чалавек. Бацькі давалі сваім нованароджаным найчасцей імёны Дамініка для дзяўчынак ды Лукаш для хлопчыкаў.

У гэтай перш-наперш сельскагаспадарчай гміне ў паўднёвай частцы Беластоцкага ваяводства пражывае стогадовая Марыя Кавальчук з Машчоны-Панскай. Толькі на адзін год маладзейшыя за яе Марыя Бартнічук з вёскі Нурэц і Леантына Сыч з вёскі Сычы. Па 97 „вёснаў" шчасліва пражылі Вольга Бурыч з Тымянкі, Марыя Барташук з Жэрчычаў ды Ян Жукоўскі з Клюкавіч.

**(ця)**

# Парнасік

### Шарая гадзіна

Шарая гадзіна
Адыходзіць дзень
Ідуць у забыццё
Радасці і крыўды

Цёмная ноч
Ціхая работніца
Ноч без месяца і зор

Новы дзень
Сонца або дажджу
Калі
Сёння будзе ўчора
А
Заўтра будзе сёння

### Жарты натуры

Зіма — снегу ні на кус,
Цеплыня — быццам вясной.
Вясна заснежыла дарогі,
Мароз шчыпае ўсіх за нос.
А ў лета шэрань, дождж ці гразь,
Бы ў позняй восені дэкады.
А ў восень, што лісток зялёны,
Той скурчыўся на дрэве, звіс.
У цёплым краі снег нападаў, —
Такая вестка на ўвесь свет.
Жартуе хіба з нас натура?
А можа мы яе натурым?

**Аўрора**

### Думкі

Сонца ўсходзіць і заходзіць,
Думкі розныя наводзіць:
Як нам трэба жыць,
З д'яблам не дружыць.
Дэталёва, проста —
У любві, не злосна, —
Мова і пра нас,

Дык пішу ў „Парнас", —
Быць заўсёды аптымістам,
„Ніва" ў сэрцы — верным лістам,
Беларусам яе чытаць,
Родную мову праслаўляць,
Злосць усяку разганяць
І любоў нам прынімаць.
І тады мы не загінем
І духоўны цяжар скінем.
І тады мы неўзабаве
Кінем думкі аб „забаве",
Будзем жыць у любві, пашане —
Не ў маразме і абмане.
Думкі нас заўсёды гоняць,
На дабро і зло наводзяць;
Выбярэм дабро,
А ніколі зло!
Думкі хай ляцяць высока,
І шырока, і глыбока:
Каб зямлю яны прабілі,
Рэха ў космасе адбілі:
Каб занеслі голас сэрца,
Дзе скарбніцы нашай месца.
Каб весці сябе культурна,
Патрыятычна, мудра,
Каб наш род жыў і не сцэз,
А роднае не пайшло ў лес.
Цяжка жыць у цяжкі час,
Адны думкі — чысты скарб.

**Мікалай Панфілюк**

### Смутна

Ой як смутна ў хаце
Як сам астанешся,
Што пачнеш рабіці,
То ўсё не ўдаецца.
Выйдзеш на панадворак,
Кругом сам разглянешся,
Няма з кім пагутарыці
Зноў да хаты вярнешся.
Так дзянёк праходзіш.
Найгорш ноч і вечар.
Яна так глухая,
Толькі свішча вецер.
Каб не тэлевізар,
То можна здурэці,
А так байку паглянеш,
Як співаюць дзеці.
Засумуеш туга

Над сваёю доляй,
Каб не быць ніколі
Круглай сіратою,
Каб хтосьці быў у хаце,
Каб з кім пагутарыці
Ды наш лёс няшчасны
Супольна падзяліці.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Астроне! Сняцца і сняцца мне сумныя сны. Вось я недзе за горадам. Ідзем мы (невядома, мо з дачкой ці ўнучкай — памятаю толькі, што быццам нехта са мной быў) па нейкай незнаёмай тэрыторыі. Пануры настрой, шэра — вечар ці ранак, а мо нават ноч. Нейкі луг з купінамі, дзе-нідзе растуць дрэвы.

Раптам перад намі паявілася шаша. Трэба яе перайсці. Гляджу, а з правага боку ў нашым напрамку імчыцца табун дзікіх коней. Яны раз'юшаныя, злосныя, з расшыранымі храпамі. Страшныя асабліва два кані.

Ужо быццам я адна, нікога са мной няма, і я ўсё яшчэ стаю перад шашой, не рашаючыся яе перайсці. Трэба ўцякаць. Я адным скокам перабягаю шашу, хаця коні, быццам нейкія шакалы, імчацца да мяне. Каб хаця паспець уцячы! Паспела. Бачу, што тыя два кані ператварыліся ў двух вялізных мядзведзяў з нейкімі малымі галовамі, быццам у цюленяў, яны ідуць, выцягнуўшыся ў цэлы рост, за мною.

Я ўцякаю ні то ў хату, ні то ў стадолу, што стаяла ў лесе. Схавалася я там унізе, а два мядзведзі ўлезлі на вышкі. Яны мяне не бачаць, а я бачу, як яны вісяць зверху, шукаючы мяне. Пасля малеюць, відаць іх усё менш. Нарэшце я бачу толькі іх лапы, а тады і зусім ужо іх не бачу, але ведаю, што яны там, на гэтых вышках сядзяць.

**Ніна**

Сон гаворыць за тое, што ў тваім жыцці паявіліся праблемы. Тыя коні, якія маглі б абазначаць для цябе поспех, перамогу, не прадвяшчаюць нічога добрага, тым больш, што ператварыліся яны ў мядзведзяў з цюленімі, малымі галоўкамі. А мядзведзь з малой ці вялікай галавой абазначае грубага, злоснага і страшнага ворага, пра існаванне якога ты, магчыма, нават і не ведаеш. Ты ўцякала ад тых коней, а пасля мядзведзяў, дык гэта абазначала б небяспечнае падарожжа (неабавязкова ў прамым сэнсе).

На пацяшэнне табе магу сказаць, што ўсё ж тыя мядзведзі цябе не знайшлі і не з'елі. Больш таго, яны зніклі з тваіх вачэй.

**Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 4. зарад для цацачных пісталетаў, 7. Хіросіге, японскі мастак (1797—1858), 8. вялікі кітайскі порт, 9. румынскія горы, 10. пакой для чаяпіцця, 14. апытальны ліст, 18. татуіроўка, 19. рака ў Балгарыі, 20. мястэчка на Беласточчыне, 21. горад у Герцагавіне.

**Вертыкальна:** 1. рака з Саймы ў Ладагу, 2. Юрка, беларускі перакладчык (1905—79), 3. дае гарантыю, 4. Нікала, сербскі палітык (1845—1926), 5. біблейная гара, 6. вялікі японскі порт, 11. сталіца Турцыі, 12. Эміль, нямецкі мастак-экспрэсіяніст (1867—1956), 13. яе сталіцай Кінгстан, 15. вантробы, 16. член каталіцкага манаскага ордэна заснаванага ў 1534 г., 17. дзікі асёл.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 42 нумара**

**Гарызантальна:** збор, хадак, Эрмлер, плуг, загіб, Бадлер, Верысіму, ягуар, апазіцыя, Альмагра, Нікан, Кірэенка, кімано, арэал, Заір, Вібарг, Парыж, апал.

**Вертыкальна:** Дананг, каліва, Балтымар, рэгбі, Амаду, Мележ, Бергамін, Амазонка, ясак, Ульм, ацёк, пяюн, палеміка, Іардан, Амарым, Сібір, качан, розга.

# Паламаліся языкі

— Ой, Анечка, што ж ты робіш са сваім дзіцёнкам! — лямантуе Параска Бунька, мая знаёмая з вёскі ў Гарадоцкай гміне, якая пад старасць асела ў Беластоку, выйшаўшы замуж яшчэ раз, за майго знаёмага. Быў ён маім сябрам у войску. Там ён казаў сябе Вацкам называць. Ну, па-нашаму ён Васіль, хай і Базыль, як у паперах стаіць. Васька зусім рады сваёй Параскай, якую ён называе Тарэскай, а за ім увесь блёк, але пры кожнай нагодзе прыгадвае сваёй другой палове, кім яна ёсць у сапраўднасці, з якое багны ён яе выцягнуў, а кім ён быў, ёсць і будзе. Я на месцы Тарэскі кінуў бы такую асабліва салодкую жытку, хай сам мэнчыцца са сваёй прастатай, гаршкамі, каструлямі, настойкамі і прымочкамі і цешыцца сваёй вялікасцю і сваёю сям'ёю, якая цікавіцца толькі зрэдчас, калі можна будзе з'ехаць па спадчыну. Пайшла б, лепей, хоць бы за мяне; я прынамсі такім чынам кабеце не дакучаю. Але ж Тарэска, нябось, разбіраецца, што лепш быць ёй за такім недабіткам, у якога ёсць грошы, які ёй пярсцёнак купіць, каб пахваліцца перад суседзямі, чым набавіцца сухотаў ад пылу маіх кніг, маркуючы, як распланаваць нашы пенсіі, каб хапіла на бульбу з капустай (здаровая ежа!) дый яшчэ як мяне задаволіць сваёю важкаю жаноцкасцю. Ух, распісаўся! Размарыўся...

Адносна яшчэ раз тых абавязкаў сямейных, пра якія Тарэска зрэдку ўхмыляецца, раз шчыра, раз менш, не саромеючыся часам і перад Аняй, ні нават перада мною. Чалавек ёсць на тое, каб нарадзіў дзяцей, выгадваў іх і яшчэ і сам пажыў. А ейны Вацак таксама шчаслівы, што адвязаўся прынамсі да смерці ад першае сямейкі. Дзеці, кажа Вацак, удаліся ў матку, а яна — не дай Божа, „зусім не інтэлігентная". А Тарэска пагадавала чацвёра сваіх, выправіла ў свет. Унукаў не памагае выхоўваць, бо далёка жывуць. Дзеці ў яе някепскія, адна дачка вучоная, усе працуюць, матку час ад часу наведваюць, хоць, як Тарэска кажа, найлепш выходзіцца з сям'ёй толькі на фотакартачцы. Але ўсё ж абаім, Тарэсцы і Вацку, хочацца ўбачыць якое малое, дык наведваюць сваю суседку, Аню. Ейны Міколка вельмі ціхмяны малеча, акуратны, хоць цікаўны, нічога чужога не чапае, дык і часам яго запросяць на пару хвілін да сябе ў кватэру.

— Ой, Анечка, што ж ты зрабіла са сваім малым! Змарнавала зусім...

— Пані Тэрэса, ці ж я кепска яго гляджу? — кажа Аня, з любасцю пазіраючы на свайго сынка, тлусценькага, ружовага, што гартае часопіс пра машыны і кажа, якія маркі аўтамабіляў у ім надрукаваны, хоць чытаць яшчэ не ўмее.

— Чаго ж ты імя такое яму дала! Гэта ж як кляймо да самае смерці! Мала ж гэта імёнаў нармальных? Як горб змалку на спіну! — бядуе Тарэска. — І чаго ж ты да яго па-просту гаворыш! Яму ж языкі паломяцца, памыляцца.

— Цікава, колькі ж у цябе, Коля, языкоў у роціку, пакажы, — рагачу я.

— Бачу, ты нейкі дзіў натуры.

— Не жартуй, Вандал! А што ж будзе, міленькая, калі ён у школу пойдзе?!

— Мне неяк мовы не папуталіся, то і з ім такая бяда не здарыцца. Не дурнейшы ж ён ад мяне павінен быць.

— І ад мяне, і ад вас, Параска разам з Васькам! — дадаю.

— Ага, каб толькі яна так пагадавала сваіх дзяцей, як мы! — Вацак аж пурпуровы робіцца.

Сапраўды, пагадавалі. Выкармілі, адзелі, хоць цяжка было. І параслі з іхных дзяцей яшчэ больш засакрэчаныя беларусы, чым яны самі. Ім ужо тая дылема не дапякае, — быць Базылём ці Вацлавам. І добра, на тое іх і гадавалі, каб лягчэй жылося ім сярод людзей.

**Вандал Арлянскі**


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Таварыства

У адной кампаніі чатырох іх трывала,
Усіх іх адна каса спалучала,
Адна бухгалтарка грошы выдавала
Ды адна машынка грошы друкавала.

Забралі машынку, схавалі ў каморы.
Разарвалі згоду — не былі ў гуморы.
Пацукі маёмасць расцягнулі ў норы.
Адзін садзіць бульбу ў чужыя разоры.

Другі ўсё, што добра,
хапіў не без сваркі:
Чайнік з пустазвонам,
без дна кававарку,
Пячатку і гербам пабітую марку
Ды рэч саму свежу —
іхнюю сакратарку.

Трэці ды чацвёрты,
калі няма грошай,
Узялі падпахі свае міфа-ношы,
Бо хоць голы, босы, але ўсё ж харошы
Іхні праваднік у чырвоных галошах.

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Адвага дурня больш небяспечная, чым баязлівасць мудраца.

* Спачатку аддаў бы ўсё, каб яе здабыць, потым — каб яе пазбыцца.

* Усе дурныя, зразумела — апрача нас саміх.

* Зіма, як цешча, радуе, калі адыходзіць.

* Маладосць канчаецца тады, калі штораз часцей пачынаем пазіраць у мінулае.

* Не гавары, што не маеш уплыву на гісторыю, яна ж ствараецца сёння.

**Пётр Байко**



## Паляўнічыя на прывале

— Ты што — з пустымі рукамі?!
— Ну.
— А я во — бачыш, які мацёры?
— Як гэта табе ўдалося?
— Проста. Я — бах! А заяц — брык!
— З капытоў...
— Ага. Брык і ляжыць.
— То мо гэта казуля, калі капыты адкінуў?
— Ды ты што? Сам паглядзі... Ці ты думаеш, што я ўжо і зайца не пазнаю? Я — бах! А заяц...
— Брык!
— Ага!
— У вобмарак, з перапуду.
— Ды ты што? Назусім... То ісь насмерць.
— Ад разрыву сэрца.
— От гэта можа быць. Бо нідзе ніякіх ранаў ад пападання не бачу.
— Цалок! Мо ў вока папаў? У Сібіры паляўнічыя вавёрак у вока страляюць, каб шкурку не псаваць.
— Не-е, я глядзеў. Цэлыя вочы. Ды я першы раз ружжо ў руках трымаю.
— А чым яно ў цябе было зараджана?
— Дранкуляй. На ваўка.
— Ого! А з якога боку ты ў яго страляў?
— Ззаду. Наўздагон.
— Зразумеў. У зайца хвост каротні, не было чым прыкрыцца, і ты яму пацэліў у самую-самую... Таму і дзіркі няма!

**Павел Місько**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Прыходзіць баба да лекара:
— На што наракаеце?
— Не маю апетыту, баліць мне галава, худзею, пацею, мучыць мяне бяссонніца, двайное бачанне, галавакружэнне і сексуальная вяласць...
— А колькі будзе вам гадоў?
— У мінулым тыдні споўнілася трыццаць.
Лекар ставіць дыягназ: „Страта памяці".

* * *

Лекар да маці пяці пар блізнят:
— Заўсёды ў вас па двое?
— Не, часта не бывае нічога.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:
— Ці хочацца табе, глянуўшы на нейкага мужчыну, зноў быць дзеўкаю?
— Так: калі гляджу на свайго мужа.

* * *

— Ці ты маеш уяўленне пра адзіноцтва?..
— Яшчэ якое! Я ж ужо шэсць гадоў замужам.

* * *

— Я і мой муж маем аднолькавыя густы.
— Упершыню такое чую! Як гэта вам удалося?
— Ой! Спатрэбілася пяці гадоў, каб яго да гэтага прывучыць.

* * *

— Як табе складваецца сужыццё з мужам?
— Ён увесь час здраджвае мне, а я вельмі часта бываю яму вернай.

* * *

Сямейны лексікон:
Муж: Дамашняя жывёла роднасная ляніўцу. У хатніх умовах, з увагі на вялікае абжорства, нерэнтабельны. Выводзіцца са скрыжавання трутня з паваю.

*

Халасцяк: Пералётная птушка. Сваіх дзяцей часта падкідае другім і мяняе памяшканне. Хітры і цяжкі для лоўлі ў капкан.

*

Стары халасцяк: Ядавіты грыб з горкім смакам. Жыве самотна або ў сімбіёзе з порхаўкаю звычайнай.

* * *

Пра што думае жанчына, калі ляжыць у ложку з мужчынам?
Вучаніца: Даведаецца мамка ці не?
Каханка: А можа б так яшчэ з разок?
Прастытутка: Цікава, колькі ён мне заплаціць?
Жонка: Маляваць столь сёлета ці праз год?

## З яўрэйскага

Першая сусветная вайна. Усходні фронт. Перад атакай царскі капітан падрывае салдат:
— Уперад, арлы!
Двух салдат астаецца ззаду.
— Ай, вы, сукінсыны! Чаго выпалі з шарэнгі!?
— Мы, вашаства, не арлы. Мы — львы!
— Якія львы!?
— Я — Леў Майсеевіч, а ён — Леў Шлёмавіч!

* * *

Шмуль, які назаўтра мае стаць да рэкруцкага набору, раіцца ў Мошкі:
— Скажы мне, брат, як выкруціцца ад арміі?
— Нічога прасцей — дай сабе вырваць усе пярэднія зубы.
Праз колькі дзён ізноў сустракаюцца на вуліцы.
— Ну і нараіў ты мне! — шапялява скардзіцца Шмуль.
— А што, узялі цябе? Сказалі, што здатны да вайсковай службы?..
— Не, наадварот. Нягодны. Але па прычыне плыскатых ступняў.

* * *

Шапіра, радавы аўстрыйскай арміі, не могучы перанесці выстралаў, зрываецца з траншэі і бяжыць безвач уперад. Раптам чуе:
— Стой!!!
Выструньваецца перад афіцэрам, заікаецца:
— Пппан пппаручнік...
— Які я табе паручнік?! — раве афіцэр. — Ты сляпы? Не бачыш эпалетаў і лампасаў?! Я — генерал!!!
— Уй! — дзівіцца яўрэй. — Няўжо я так далёка адбег ад лініі фронту?

**(лук)**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Нядаўна мы былі ў кампаніі маіх калег з працы. Мы — гэта значыць, я і мая сяброўка, якая ў нас не працуе. Мы святкавалі пэўны юбілей нашай установы і я вырашыла запрасіць таксама яе.

Гэта вельмі мілая дзяўчына. Вельмі яна прыгожая, а адначасова скромная. Я яе вельмі люблю. І яна вельмі ўцешылася, калі я сказала, што вазьму яе з сабой, бо яна мала куды ходзіць. Усё на вечары было ў парадку. Пасля аднак, мае калегі крыху выпілі і пасля заканчэння вечара вырашылі пайсці ў рэстаран і там працягваць „юбілей". Яны запрасілі і нас. Чаму ж не? Гэта ж мае супрацоўнікі. Напэўна, будзе прыемна, думала я.

Спачатку сапраўды было вельмі прыемна. Далікатнае чырвонае святло стварала адпаведны настрой. Пасля віна, якое мы выпілі, па целе разлівалася дрыготкае цяпло.

Як цудоўна! Сяброўка была шчыра ўдзячная мне, усе мае калегі — адзін перад другім — стараліся ёй спадабацца. Я нават была крыху злосная, што яны не звяртаюць на мяне ніякай увагі, хаця я разумела, што яны мяне бачаць штодзённа, а мужчыны заўсёды прагнуць новых твараў і да незнаёмых дзяўчат любяць заляцацца, хаця, праўду кажучы, нярaз трактуюць іх усяго як новую здабычу. Мае калегі, з якімі мы прыйшлі, былі амаль усе жанатыя, а той нежанаты быў зусім нецікавы. Але, дальбог, нежанаты паводзіў сябе скромна. А жанатыя дзецюкі проста лезлі да маёй сяброўкі, быццам назойлівыя мухі.

Асабліва адзін з іх быў упарты. То стараўся да яе прытуліцца, то гладзіў па руцэ. Калі цмокнуў яе ў шчаку, яна яшчэ сцярпела. Чалавек быў стары і брыдкі, але да дзяўчат ірваўся, быццам нейкі Казанова. Калісьці, сапраўды, казалі, што ён у жанчын меў вялікі поспех. Але цяпер...

Ды нават і не ў гэтым справа. Мая сяброўка паводзіла сябе вельмі скромна і не дала яму ніякай надзеі на нейкія пачуцці. Дык чаго лез? Не мог вытрымаць? Каб жа было скончылася на тым няшчасным пацалунку ў шчаку... Але ж ён схапіў яе за твар і... усадзіў сваю вусатую і барадатую мызу з рэшткамі яды проста ў губы маёй сяброўкі.

Яна не хацела яго абразіць, але між волі аж уздрыгнула ад агіды, а пасля перасела на другое месца. Наступіла на нейкі час цішыня. Усе былі ў рознай ступені шакіраваны паводзінамі гэтага калегі. Але ён не здаваўся. Было відаць, што хацеў гэтай дзяўчыне зрабіць прыкрасць. Пачаў гаварыць брыдкія словы, праракуючы нас, дзяўчат. Рабіў бескультурныя ўвагі ў адрас маёй сяброўкі. А яна сядзела, быццам акамянелая, і не гаварыла ні слова.

Калега, які чапляўся да маёй сяброўкі, ужо не ведаю, чым яе абразіць, як прычыніць ёй боль. І раптам кажа ёй: „А мо ты ведаеш, чаму гэта чалавек, калі наробіць кучу, не можа ўстрымацца, каб не глянуць на яе, якая яна ёсць, пакуль не спусціць ваду?"

Мая сяброўка зрабілася пунсовая, а я разам з ёю. Мне было сорамна, што са мной працуюць такія людзі. Божа, а што яна цяпер падумае пра мяне?..

Мы неяк адначасова ўсталі і выйшлі з ёю з гэтага рэстарана. Нехта за намі выбег, але мы, не аглядаючыся, селі ў таксі.

На рабоце я амаль не адзывалася да тых калег, з якімі мы былі ў той вечар. Скажы, ці той чалавек мусіў паказваць свае клыкі?

**Ага**

Агата! Адкінуты чалавек, бывае, ашчэрыцца. Так, як той твой калега. Каб тая дзяўчына была ў адносінах да яго мілая і паслухмяная, гэтага б не было. А так ашчэрыўся і ўкусіў.

З кім гарэлку піць і ў карты іграць — трэба ведаць.

**Сэрцайка**